PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 33 (2205) Год XLIII Беласток 16 жніўня 1998 г. Цана 1,20 зл.

Там, дзе палякі гавораць „па-просту"

## С. Гурын: „Па сваёй зямлі пахадзіць, з суседзямі пагаварыць па-беларуску..."

Ада Чачуга

**На поўначы ад Беластока — чысцейшая беларуская мова. Каталіцкая вера, аднак, цягне тутэйшых жыхароў у рэчышча польскасці. Нават той, што родную мову ведае дасканала, пры чужых стараецца быць палякам. А маладыя людзі „па-просту" ўжо мала гавораць.**

Станіслаў Гурын ад сваёй роднай мовы не адцураўся. Фахова паправіў майго мужа, калі той сказаў прымаўку па-руску. Гаварыце ўжо так, як трэба, і сказаў тое самае чыста па-беларуску.

Гэта было ў мінулым годзе, у стадніне Станіслава Гурына ў Плацічне, якое ляжыць у сямі кіламетрах ад Сувалкаў, дзе пражывае ён з сям'ёй. Сёлета я мела нагоду даўжэй пагутарыць з гэтым чалавекам.

Яго родная вёска — Пяцівалокі (у пяці-шасці кіламетрах ад Сухаволі). Калі малады Стась выязджаў у свет, было там пятнаццаць гаспадарак. Цяпер засталося ўсяго сем, сцвярджае ён. Але мы ні хаты, ні гаспадаркі нікому не аддамо і не прадамо. Штогод туды летам едзем па сваёй зямлі пахадзіць, з суседзямі пагаварыць па-беларуску, малака напіцца ад каровы...

Хата ў нас там вялікая, драўляная. Мы яе цяпер адрамантавалі, ваду правялі, тэлефон будзе, ужо цягнуць лінію. Ці маю час туды ездзіць? Вядома, у стадніне шмат працы, ды і 85-гадовая маці цяпер у Варшаве, у сына. Але тая хата — гэта наш першы дом.

Мама, калі прыедзе сюды, а ўсюды яна адна ездзіць, толькі дзень мо пасядзіць у нас, у Сувалках. І ўжо яе цягне на вёску. Там ёй добра! І машынай не вязі, яна сама паедзе пэкаэсам. Але хто яе пусціць... Прынамсі месяц пажыве там. У сябе ж! І ўсё больш на лавачцы, каб са сваімі сустрэцца, паўспамінаць былое.

А было ўсякае. У 1964 годзе, калі Стасю было восем гадоў, памёр яго бацька. Засталася ўдава з шасцярыма дзецьмі. Усе — сыны. І ўсіх сама выхавала, павывучвала. Толькі адзін з іх мае сярэднюю адукацыю, усе іншыя — вышэйшую.

Адзін брат Стася (той, што скончыў Акадэмію фізічнага выхавання), жыве ў Канадзе і працуе па сваёй прафесіі, другі — у Даніі, трэці — адвакатам у Шчэціне, чацвёрты настаўнічае ў тэхнікуме ў Ружаным Стоку, а той, што жыве ў Варшаве — аўтамеханік з вышэйшай адукацыяй.

А ён, Станіслаў Гурын, праўду кажучы, настаўнік гісторыі. Ліцэй закончыў у Дуброве, а пасля штудзіраваў гісторыю ў Варшаве, Кракаве, дзе закончыў Вышэйшую педагагічную школу. Бацька, калі паміраў, загадаў сваім дзецям вучыцца. Маме, вядома, не было лёгка, успамінае сп. Гурын, але я, калі вучыўся ў вышэйшай школе, ад яе не браў ні залатоўкі. Ды і вучыцца тады было лягчэй. Быў амаль дармовы інтэрнат, былі стыпендыі, я яшчэ дарабляў у гэт

[працяг ☞ 3]



*Перад Вострай брамай у Вільні Алесь Палескі і Вячаслаў Харужы.*

## З'езд у Вільні

Міра Лукша

*Вільня гэта такая жанчына,*
*Што калі хто да яе дакранецца*
*(Калі гэта сапраўдны мужчына),*
*Яна ў сэрцы яго застанецца!*

*Сямён Шарэцкі*

Пачынаем наш аповед пра II З'езд беларусаў Балтыі жартаўлівым вершам, складзеным экспромтам спікерам прызнанага дэмакратычным светам парламента Беларусі. Вершык прагучаў пад канец урачыстай вячэры на заканчэнне сустрэчы (25-26.07.1998 г.). З Беларусі сярод запрошаных гасцей, апроч палітыкаў, журналістаў і артыстаў былі і лідэры ЗБС „Бацькаўшчына"; група немалая, нягледзячы на цяжкасці перасячэння сёння мяжы з Летувай. У сэрца беларускасці, Вільню, куды раней што і раз прыбывалі беларусы з рэспублікі, каб падыхаць атмасферай, набраць сілы, сустрэць такіх людзей, як Лявон Луцкевіч, пахадзіць з імі па беларускай Вільні, цяпер не менш цяжка ўехаць, як на Захад. „Сюды прывялі шляхі, сюды — дзе наша карэнне", — вершам прамовіла з трыбуны Аўгіння Кавалюк з Санкт-Пецярбурга, расказваючы пра дзейнасць немалой беларускай дыяспары ў тым горадзе, успамінаючы таксама ранейшую багатую беларускую там прысутнасць. З Пецярбурга на з'езд прыбылі м.інш. цётка Данчыка Андрусішына Маргарыта Пярова з роду Луцкевічаў і вядомая на Беласточчыне збіральніца і папулярызатарка фальклору Галіна Таўлай. З Эстоніі — м.інш. Зінаіда Клыга і Тамара Караткевіч-Цыганок, з Латвіі — доктар Мікола Кузняцоў. З усяе Віленшчыны прагучалі галасы беларусаў, м.інш. выступіў Міхась Рулінскі са Згуртавання беларусаў Троцкага раёна, былы ад'ютант Кастуся Езавітава. Разглядаліся розныя палітычныя, сацыяльныя і культурныя праблемы, з якімі сустракаюцца беларусы Балтыі ў сваім штодзённым жыцці; асабліва на ім адбіваюцца адносіны дзяржаў, у якіх яны жывуць, да палітыкі Мінска. Шырока прэзентавалася дэлегацыя з Польшчы — м.інш. Пятро Юшчук, Аліна Ваўранюк, Ян Тапалянскі, Пятро Багроўскі, Алесь Палескі, Ян Заброцкі, Вячаслаў Харужы. Пятро Юшчук вельмі дакладна прадставіў нашу дзейнасць, пачынаючы ад палітычнай праз выдавецкую, мастацкую, асветную, навуковую, рэлігійную, канчаючы на „Басовішчы" і дзіцячым садку. Яго лозунг „Вільня — цэнтрам цэнтраў" беларускасці быў падхоплены дэлегатамі і ўведзены ў канцовыя пастулаты рэдакцыйнай камісіі. Паколькі, „калі ў краіне рэжым, то палітыка гэта і мова, і кулінарыя", як сказаў Зянон Пазьняк, то з'езд апроч таго што быў рабочай сустрэчай дыяспары і аўтахтоннага беларускага насельніцтва Балтыі і аколіц і кранаў развязку праблем

[працяг ☞ 4]

## Шанс на індэкс

Інстытут усходнеславянскай філалогіі Універсітэта ў Беластоку аб'яўляе **дадатковы набор** на магістэрскія студыі па спецыяльнасці **русістыка з беларусістыкай** (16 месцаў). Дакументны афіцыйна складваць у камісію (вул. Лінярскага 4) да **17 жніўня**, 50 зл. — аплата за экзамен; кваліфікацыйная размова з ведаў па беларускай або рускай мове, або граматыцы польскай мовы **1 верасня** 1998 г. Інфармацыя: Інстытут усходнеславянскай філалогіі — тэл. 7457450, Прыёмная камісія Гуманітарнага факультэта — 7457507. **(лук)**

## Беспрацоўе на Гайнаўшчыне

На працягу першых трох месяцаў 1998 года не было групавых звальненняў, а ў Раённым ведамстве працы ў Гайнаўцы розныя прадпрыемствы і ўстановы заявілі аб 197 новых месцах працы, аднак, у сярэднім на адну прапанову працы было ў студзені 47 беспрацоўных, у лютым — 29, а ў сакавіку — 40.

[*шырэй* ☞ 3]

## Партызанская рэспубліка

31 ліпеня г.г. прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка заклікаў свой люд да „бітвы за ўраджай". Ад 3 жніўня аб'явіў надзвычайнае становішча ў дзяржаве, у якой усе сілы і сродкі трэба накіраваць на „жніўны фронт". Беларусь, — заявіў Лукашэнка, — з'яўляецца сёння адзінай краінай, якая дае адпор наступленню Захаду. Фронт пайшоў цяпер далёка на ўсход, а Беларусь, як і ў 1941 годзе Брэсцкая крэпасць, цвёрда абараняе славянскую традыцыю.

[*рэпартаж* ☞ 4]

## Сувалкі баяцца беларусаў

Сувалкі неўзабаве перастануць быць ваяводскім горадам. Перспектыва вяртання ў Беластоцкае (Падляшскае) ваяводства многіх палохае. І гэта па прычыне пражываючых тут беларусаў?

[*болей* ☞ 4]

## Завяршаецца конкурс

Чытачы, якія да 23 жніўня 1998 г. дашлюць у рэдакцыю дзесяць талонаў з правільнымі адказамі, якія друкаваліся ў 23-32 нумарах нашага тыднёвіка, возьмуць удзел у жараб'ёўцы ўзнагарод. Не празявайце тэрмін!

# Беларусь — беларусы

## Пакуль „Газпрам" не дзеўбане, Саўмін не зварухнецца

**Беларускія газавікі сцвярджаюць, што надыходзячая зіма будзе самай цяжкай з усіх зім „беларускага суверэнітэту".**

Урад Рэспублікі Беларусь захоўвае ўнутраны спакой, ні разу не запрашаючы журналістаў абмеркаваць тэму энергазабеспячэння краіны. Прэс-канферэнцыі ў Доме ўрада канулі ў мінулае. Тым часам у кабінетах і калідорах фінансавай улады вядуцца актыўныя пошукі валюты — усё на аплату электраэнергіі і газу. Беларусь знаходзіцца на грані аднаго з самых глабальных крызісаў — энергетычнага. Прэзідэнт краіны А. Лукашэнка нават папрасіў аднаго з віцэ-прэм'ераў „атрымаць гуманітарную дапамогу" ў аб'ёме трэцяй часткі паставак прыроднага газу. Гэта можа абазначаць адно — няма чым плаціць.

У ліпені намеснік старшыні Расійскага акцыянернага таварыства „Газпрам" А. Пушкін накіраваў тэлеграму беларускаму прэм'еру С. Лінгу: „РАТ «Газпрам» вымушаны адмовіцца ад далейшых залікаў матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў і паслуг па будове у лік аплаты газу". Газавы манапаліст патрабаваў аплачваць за ўвесь зрасходаваны газ валютай.

У „Газпрама" ёсць для такой фармулёўкі некалькі падстаў. У першую чаргу акцыянернае таварыства павінна да 1 верасня разлічыцца з федэральным бюджэтам Расіі. Апрача таго, Беларусь абяцала плаціць 1 млн. долараў у дзень, а плаціць трохі больш за палавіну — 600 тысяч. У выніку доўг вырас са 100 млн. долараў у пачатку года да 250 млн. на пачатак ліпеня.

*ДАВЕДКА: Сёння ў РБ налічваецца амаль 2 тыс. буйных прамысловых спажыўцоў газу і каля 14 тысяч прадпрыемстваў камунальна-бытавога сектара. Запатрабаванне Беларусі ў 1998 г. ацэньваецца на 16,5 млрд. кубічных метраў прыроднага газу, з якіх 15 млрд. — квота „Газпрама".*

21 красавіка 1997 г. кіраўнік „Газпрама" Рэм Вяхіраў падпісаў у Мінску праграму, у якой Беларусь абавязалася: 26% зрасходаванага газу аплачваць грашамі; да 1 ліпеня выпусціць урадавыя аблігацыі і пагасіць доўг мінулых гадоў; арганізаваць правядзенне ўзаемаразлікаў цераз федэральны бюджэт: пагашэнне даўгоў „Газпрама" ў абмен на пастаўку беларускіх тавараў міністэрствам і ведамствам Масквы.

Як сказана ў тэлеграме, ніводзін з пунктаў вышэйпрыведзенай праграмы не рэалізуецца: „Да гэтай пары не вырашаны пытанні па рэструктурызацыі доўгу Дзяржаўнага прадпрыемства «Белтрансгаз» у памеры 200 млн. долараў ЗША шляхам выпуску і перадачы на ўласнасць РАТ каштоўных папер урада РБ, а таксама па аплаце газу цераз пагашэнне абавязацельстваў РАТ «Газпрам» перад федэральным бюджэтам на суму 200 млн. долараў ЗША".

Сітуацыю ў Беларусі ўскладняе яшчэ адзін факт. Па просьбе ўрада РБ Ігналінская АЭС уключыла два блокі для выпрацоўкі электраэнергіі. Гэта было ў снежні мінулага года. Да гэтай пары Беларусь не заплаціла 30 млн. долараў. Нядаўна прэзідэнт канцэрна „Белэнерга" В. Герасімаў быў выкліканы ў Літву для абмеркавання варыянтаў аплаты. Калі, канешне, Беларусь хоча атрымоўваць электраэнергію. Спыненне энергаблокаў — справа таксама дарагая. Як стала вядома, канцэрн „Белрэсурсы" сёння распрацоўвае схему правядзення энергаразлікаў цераз маскоўскія кампаніі. У выпадку паспяховага ўзаемразлікy Беларусь пагасіць 10 млн. долараў. Дадатковай валюты ў краіне няма.

У беларускім урадзе, мяркуючы па ўсяму, да пагроз з боку „Газпрама" ўжо прывыклі. Адмовіўся „Газпрам" ад трактароў — але толькі на паперы. На самай справе, па меркаванні намесніка міністра эканомікі В. Найдунова, „сёння ўсе намаганні накіроўваюцца на тое, каб выпаўніць праграму, значыць, плаціць 26% грашамі, 74% — матэрыяльнымі рэсурсамі". Праўду кажучы, пакуль „Газпрам" не дзеўбане, Саўмін не зварухнецца.

Аднак сапраўднага жадання развязаць гордзіеў вузел, здаецца, няма... У 1997 г. 33 кампаніі праводзілі газавыя разлікі. У 1998 г. Камітэт дзяржаўнага кантролю іх дзейнасць прызнаў незаконнай. У выніку рынак газавых разлікаў паралізаваны. Не працуе ніводная з фірм.

Ужо сёння вядзецца скарачэнне падачы газу для прамысловасці, прымяняецца веернае адключэнне (на некалькі гадзін па чарзе для розных спажыўцоў і раёнаў), адключаюцца невялікія хранічныя даўжнікі і рыхтуюцца графікі работы на выпадак скарачэння паставкі газу на 20-30-40%.

Ці закране гэты крызіс грамадзян? У самым крайнім выпадку. У аснову ўсіх эканамічных праблем выканаўчая ўлада Беларусі ставіць сацыяльнае забеспячэнне і спакой у грамадстве. За дужкамі застаецца адно: эканамічныя праблемы трэба вырашаць толькі чыста эканамічнымі метадамі. Інакш ніякія сацыяльныя гарантыі ў выпадку энергетычнага голаду ў краіне не выратуюць грамадзян.

**Наталля Грыб**

*„Комсомольская правда" (Москва), № 136, 24-31.07.1998 г.*

## Апельсіны са сцяжком

Напярэдані Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, які згодна з Канстытуцыяй 1994 года адзначаецца 27 ліпеня, група актывістаў „Хартыі '97" правяла акцыю на мінскім рэчавым рынку „Дынама".

26 ліпеня прадпрымальнікам, якія гандлююць на гэтым найбуйнейшым рынку краіны, удзельнікі акцыі раздавалі апельсіны, на якіх былі наклеены бел-чырвона-белыя сцяжкі. Пры гэтым прадстаўнікі тлумачылі: мы ўсе любім сонечныя фрукты, але не хочам жыць у бананавай рэспубліцы з дыктатарскім рэжымам, у якую спрабуюць ператварыць Беларусь. Было таксама раздадзена некалькі тысяч лістовак з запрашэннем прыйсці 27 ліпеня на мітынг у гонар Дня Незалежнасці; раздаваліся таксама бюлетэні „Хартыі '97". Прадпрымальнікі цёпла віталі ўдзельнікаў акцыі, многія ставілі свае подпісы пад тэкстам „Хартыі".

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН**

*„Народная воля", 29.07.1998 г.*

## Еўрапейская пілігрымка

**(нататкі аб святкаванні 80-х угодкаў БНР у беларускім замежжы)**

*(працяг; пачатак у 29 н-ры)*

**Парыж**

29 сакавіка пакідалі беларускі куток у Лондане. Ад'язджалі ад „Скарынаўкі". Праводзілі нас сп. Алена Міхалюк з сынам Эдвардам, які таксама прыехаў на свята з Шатландыі, айцец Аляксандр, Гай Пікарда і іншыя нашы сябры і знаёмыя. Шкада было развітвацца, і прыкра, што не маглі, нават, запрасіць іх да сябе ў госці, бо не прынясе ім зараз радасці паездка на Радзіму. З Лондана выехалі ў поўдзень і праз паўтары гадзіны былі на ўзбярэжжы. Загрузіліся на паром кампаніі „Stena" і праз наступныя паўтары гадзіны высадзіліся ў Францыі.

Позна вечарам дабраліся мы да Парыжа, у якім даўно хацелася пабываць. Быў цёплы нядзельны вечар, на вуліцах поўна людзей. Адрас, які шукалі, знаходзіцца ў самым цэнтры Парыжа. Трапілі не адразу, доўга калясілі па вуліцах, плошчах, назвы якіх знаёмыя кожнаму цывілізаванаму чалавеку. Праехалі па Елісейскіх палях, каля прыгожа асветленай Эйфелевай вежы. Нарэшце знаходзім невялікую вулачку Rue de Granilliers, дзе размяшчаецца кватэра Беларускай каталіцкай місіі, якую ўтрымлівае а. Аляксандр Надсан — апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў у замежжы. У гэтым жа памяшканні месціцца і Беларускі Хаўрус у Францыі, з 70-х гадоў яго ўзначальвае Міхась Навумовіч. Кватэра належыць беларусам з 1931 года, сапраўды гістарычны для нас куточак. У міжваенны час тут жылі вядомыя беларускія дзеячы: Рыдлеўскі (памёр і пахаваны ў Лондане), Мікола Абрамчык, пазней — Леў Гарошка. Рыдлеўскі і Гарошка былі заснавальнікамі Хаўруса.

У кватэры сустрэў нас Ігар Лялькоў, які часова жыве тут, малады беларус з Мінска. Праз гадзіну прыехалі Міхась Навумовіч і Лявон Шыманец з дачкою Вірджыніяй. Менавіта, дзякуючы гэтым людзям і трымаецца доўгія гады беларуская прысутнасць у Парыжы. Міжволі ўспамінаю эмацыянальную прамову сп. Міхася на Першым з'ездзе беларусаў свету, адчувалася, які боль у душы насіў чалавек і як сумаваў па Радзіме, таму і не забывае яе ўсё сваё жыццё. Лявон Шыманец належыць да гэтага ж пакалення эміграцыі другой сусветнай вайны. Ён — сын знакамітага беларускага мастака Уладзіміра Шыманца. Спадар Лявон перахоўвае ў сабе гэту глыбінную беларускасць.

Раніцою, 30 сакавіка, усёй грамадою накіраваліся мы на могілкі Пэр-Лашэз. Тут пахаваны прэзідэнт Рады БНР Мікола Абрамчык, ён пераняў пасаду прэзідэнта ад Васіля Захаркі ў 1943 г. і ачольваў яе да канца свайго жыцця ў 1970 г. Пашкадавалі, што на магілцы і сёння няма належнага помніка і гэтую справу патрэба зрабіць агульнымі намаганнямі.

Яшчэ адзін знакаміты беларус пахаваны там. На яго магілцы кветкі — іх прыносяць удзячныя прыхільнікі творчасці французскага паэта Гіёма Апалінэра. На помніку — сапраўднае яго прозвішча: Кастравіцкі. Гіём — унук Апалінарыя Кастравіцкага, аднаго з братоў Кастравіцкіх, удзельнікаў паўстання Кастуся Каліноўскага. Апалінары мусіў эміграваць на Захад пасля здушэння паўстання. У яго дачкі і нарадзіўся будучы паэт. У якасці свайго літаратурнага псеўданіма ён узяў імя дзеда.

Можа і яшчэ нехта з нашых суродзічаў знайшоў вечны супакой на гэтым знакамітым могільніку. Але, пакуль гэта невядома. Па ўсім свеце раскіданы часцінкі беларускага пантэона, усе яны павінны быць у абсягу нашай увагі. А тым часам мы дамовіліся з мясцовымі беларусамі, што гэтыя дзве магілкі ў Парыжы будуць дагледжаны, так як гэта робіцца на Альшанах у Празе сіламі суполкі „Скарына", у Лювэне — сп. Зояй Смаршчок, якая не забывае шлях да магілкі Міколы Равенскага.

***(працяг будзе)***

**Ганна СУРМАЧ**

## Далейшае пераўтваранне ліцэя

У канцы ліпеня выканаўчыя ўлады дзяржавы пачалі новы наступ на адзіны ў краіне Беларускі гуманітарны ліцэй. Спасылаючыся на пастанову Савета Міністраў ад 10 ліпеня 1998 г. аб пераўтварэнні Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра, у складзе якога знаходзіўся Беларускі гуманітарны ліцэй, у Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа, міністр адукацыі Васіль Стражаў ды віцэ-прэм'ер Уладзімір Заматалін заявілі пра неабходнасць змены кіраўніцтва ліцэя, хаця пра гэта ў згаданым дакуменце нічога не было запісана. Таксама працоўнае заканадаўства патрабуе, каб пры пераўтварэнні ўстановы працоўныя адносіны з яе калектывам не спыняліся, а прыпыненне працоўнай дамовы з кімсьці з работнікаў, у тым ліку і кіраўніком, магчымае толькі з ягонай ініцыятывы і пры скарачэнні штатаў. Тым часам заявы аб звальненні не пісаў ні дырэктар ліцэя Уладзімір Колас, ні ягоны намеснік Лявон Баршчэўскі. Штатны расклад пераўтворанага ліцэя, які ўжо зацверджаны Міністэрствам адукацыі, прадугледжвае пасады і дырэктара, і ягоных намеснікаў. Тым не менш 29 ліпеня міністр прадставіў дырэктару Уладзіміру Коласу ягонага пераемніка — Мікалая Плескацэвіча, першага прарэктара Менскага педагагічнага універсітэта. 30 ліпеня ў часе асабістай сустрэчы міністр Стражаў зноў заявіў Уладзіміру Коласу, што змена кіраўніцтва ліцэя робіцца ў сувязі з павышэннем статусу ліцэя ды ў інтарэсах выкладчыкаў і ліцэістаў.

Падчас ранейшых неаднаразовых сустрэч з прадстаўнікамі Бацькоўскай рады віцэ-прэм'ер Уладзімір Заматалін абяцаў, што пераўтварэнне ліцэя не выкліча кадравых перастановак. Цяпер ён пра гэта гаворыць у зневажальным тоне: „Родители — это толпа, которой руководит поп Гапон". Бацькоўская дэпутацыя 3 жніўня была прынята намеснікам міністра адукацыі Генадзем Дылянам, які паведаміў пра жаданне міністэрства хутчэй паставіць кропку ў ліцэйскай гісторыі. „Зменім дырэктара і больш ніякіх рэвалюцый не адбудзецца", — заявіў віцэ-міністр. На пытанне, чым не задавальняе міністэрства цяперашні дырэктар, спадар Дылян адказаў: „Ніякіх такіх сур'ёзных прэтэнзій да Уладзіміра Коласа ў нас няма". Тым не менш хоць прэтэнзій няма, аднак кандыдатура цяперашняга дырэктара міністэрствам не была прадстаўлена на ўзгадненне з Саветам Міністраў. Цяпер ужо стала вядома, што не міністэрства а Саўмін прапанаваў міністэрству згадзіцца змяніць дырэктара. 3 жніўня віцэ-міністр Дылян паведаміў, што зноў не ідзе гаворка пра Беларускі гуманітарны ліцэй як пра самастойную адзінку, як тое было запісана ў пастанове Саўміна. Гэткім чынам у ліцэйскай гісторыі новы паварот — улады надумалі надаць ліцэю педагагічную спецыялізацыю.

*Радыё „Свабода", 3.08.1998 г.*

# Беспрацоўе на Гайнаўшчыне

**У канцы сакавіка 1998 года ў дзевяці гмінах Гайнаўшчыны было 2 447 асоб без працы, што састаўляе 8,3% ад агульнай колькасці працаздольных асоб. На працягу першых трох месяцаў гэтага года пастаянную працу знайшло 253 беспрацоўных.**

— Найбольш месцаў працы знаходзім у супрацоўніцтве з работадаўцамі, — кажа кіраўнік Аддзела пасрэдніцтва працы ў Раённым ведамстве працы ў Гайнаўцы Галіна Галёнка. — Супрацоўнічаем з 350 работадаўцамі, сярод якіх 40% гэта пастаянныя і надзейныя партнёры. Залежна ад іх запатрабаванняў або нашых назіранняў рынку працы арганізуем розныя курсы. Апошнім часам наладзілі курсы, якія прывучалі да прафесіі афіцыянта, зваршчыка, муляра, тынкоўшчыка, аператара машын, каўбасніка і іншых.

Найбольш беспрацоўных у канцы сакавіка 1998 года было ў горадзе Гайнаўцы — 1 217, у гміне Нараўка — 260, гміне Нарва — 211, гміне Чаромха — 180, горадзе і гміне Кляшчэлі — 151, гміне Гайнаўка — 150, гміне Белавежа — 125, гміне Дубічы-Царкоўныя — 89, а найменш у гміне Чыжы — 64. У гэтым ліку больш чым палову састаўлялі жанчыны — 1 411. У тым жа месяцы рэгістраваліся 214 новых беспрацоўных, а 236 асоб былі зняты з уліку (90 асоб знайшло пастаянную працу, 2 — сезонную, 90 — не пацвердзіла гатоўнасці да працы, 8 — прынятых было да іншых прац і 28 — па іншых прычынах). На Гайнаўшчыне 47,3% усіх беспрацоўных састаўлялі жыхары вёсак і ў канцы сакавіка было іх 1 157.

Аднак гэтыя лічбы не абазначаюць, што беспрацоўныя могуць карыстацца дапамогай дзяржавы. Выдатная большасць іх страціла права на ўспамогу. Для прыкладу, у самой Гайнаўцы на 1 244 беспрацоўных ажно 1 017 не карыстаецца дапамогай (83,6%). У іншых гмінах сярод асоб без працы ўспамогай не карысталася таксама большасць (гміна Чаромха — 89,4%, гм. Дубічы-Царкоўныя — 88,8%, гм. Чыжы — 87,5%, гм. Гайнаўка — 86%, гм. Белавежа — 82,4%, гм. Нарва — 81%, гм. Кляшчэлі — 77,5%, гм. Нараўка — 76,5%).

Звяртаючы ўвагу на стаж працы трэба сказаць, што найбольш было тых асоб без працы, якія яшчэ не пачалі працаваць (28,6%), тыя людзі, якія працавалі ад 10 да 20 гадоў складалі 20% ад агульнай колькасці, 5-10 гадоў — 14%, 1-5 гадоў — 13,2%, да 1 года — 12,3% і 20-30 гадоў — 10,7%, а звыш 30 гадоў — 1,2%. Сярод асоб, якія яшчэ не працавалі вялікую колькасць састаўлялі выпускнікі розных школ (11 чалавек з вышэйшай адукацыяй, 78 з сярэдняй і 57 з прафесійнай).

На працягу першых трох месяцаў 1998 года не было групавых звальненняў, а ў Раённым ведамстве працы ў Гайнаўцы розныя прадпрыемствы і ўстановы заявілі аб 197 новых месцах працы, аднак, у сярэднім на адну прапанову працы было ў студзені 47 беспрацоўных, у лютым — 29, а ў сакавіку — 40.

— Супрацоўнічаем таксама і з самаўрадамі, праз пасрэдніцтва якіх беспрацоўныя атрымліваюць працу ў час пабудовы школ, каналізацыі, водаправодаў, дарог. Найчасцей — гэта часовыя працы, але трапляецца і пастаянны занятак. У такіх выпадках мы рашаемся вяртаць такому работадаўцу частку зарплаты і складчыну на страхаванне, вядома, праз нейкі час, — гаворыць кіраўнік Галіна Галёнка. — У гэтым годзе з асаблівай дапамогай звяртацца будзем да выпускнікоў розных школ з праграмай „Выпускнік '98", у якой будзем прапанаваць для кожнага індывідуальны план дзеяння. Малады чалавек зможа пайсці на спецыяльныя курсы, якія аплаціць беспрацэнтнай пазыкай, скіруем яго на стажыроўку, нават 12-месячную, у час якой выплацім стыпендыю, будзем размаўляць, вучыць як шукаць працу і даваць пазыкі на прыватную гаспадарчую дзейнасць.

За першыя тры месяцы 1998 года пастаянную працу на Гайнаўшчыне знайшлі 253 асобы, 10 — сезонную, 36 закончыла розныя курсы, а 36 пачало інтэрвенцыйную працу.

**Аляксей Мароз**

# Вясковы кумпяк з цэха

**Беластоцкае мясное прадпрыемства (ПМБ) — адна з нямногіх дзяржаўных установаў на Беласточчыне, якая паспяхова развіваецца ва ўмовах рыначнай эканомікі. Прадукты ПМБ карыстаюцца папулярнасцю на айчынным і замежным рынках, заваёўваюць прызы на харчовых кірмашах. У чэрвені прадпрыемства заняло першае месца ў конкурсе на самую цікавую прадуктовую вытворчасць 1997 года, арганізаваным Міністэрствам земляробства і харчовай гаспадаркі. З гэтай нагоды правёў я размову з Мар'юшам БАРСУКОМ — намеснікам дырэктара ПМБ па справах гандлю і маркетынгу.**

***— Адкуль бяруцца такія дзівосныя назвы вашых вырабаў, як напрыклад, „шынка з-пад коміна"?***

— Памятаеце, пэўна, вясковыя кумпякі, якія насоленыя вешалі сяляне на ентцы пад дахам каля коміна? Мы нічога іншага не робім, толькі аднаўляем традыцыю вясковай вытворчасці. Каб атрымаць смакавіты кусок кумпяка, паляндвіцы ці грудзінкі трэба іх адпаведны час трымаць у салянцы, запраўленай рознымі прыправамі. Час даспявання сырых вырабаў працягваецца ў нашым вытворчым цыклі каля шасці тыдняў. Пасля вэндзім. Такі гатовы прадукт можа ляжаць тыднямі і не псуецца. І гэта самае важнае. У яго таксама свой асаблівы смак. Праўда, тэхналагічны цыкл выдоўжваецца такім чынам, таму і цэны ў нас павышаныя. У рыначнай эканоміцы за добры тавар трэба і больш плаціць. Гэта правілы, ад якіх нельга адступаць.

***— Скажыце, калі ласка, як маецца справа з вытворчасцю ў летнім сезоне? Гэта ж час водпускаў...***

— Мы намагаемся выканаць сваю дзённую норму вытворчасці ў аб'ёме 130 тон вырабаў. Гэта пакуль што ўдаецца. А водпускамі людзі карыстаюцца. Зараз, напрыклад, галоўны дырэктар цешыцца летнім сонцам, а я вымушаны працаваць. Нядаўна дачушка нам нарадзілася, таму трэба апекавацца і малечай, і жонцы памагчы ў дамашняй гаспадарцы.

***— А што чуваць наконт прыватызацыі вашай фірмы?***

— Пакуль што раздзяржаўленне не прадбачваецца, хоць, праўду сказаўшы, яно непазбежнае. Каб правесці прыватызацыю, трэба мець падтрымку ўсяго рабочага калектыву. А нашы працаўнікі да прыватызацыі ставяцца непрыхільна, вядома, прынясе яна з сабою скарачэнне месц працы.

***— А што на гэта прафсаюзныя арганізацыі?***

— Ім таксама не спяшаецца. У пачатку жніўня наладжваюць сход, там і будуць рашаць. Фірма пакуль што працвітае. Маем прыбыткі. Ды і суадносіны прафсаюзаў з галоўным дырэктарам карэктныя.

***— Разумею, што для прыватызацыі патрэбна згода працоўнага калектыву і прафсаюзаў. А калі яе не будзе?***

— У нашым выпадку галоўны дырэктар сам можа рашыць справу, бо ён мае паўнамоцтвы ад ваяводы на аднаасабовае загадванне прадпрыемствам. Аднак дырэктар прыслухоўваецца да меркаванняў працаўнікоў і лічыцца з іхнімі думкамі. За гэта і людзі яго шануюць.

***— Дзякую за размову і жадаю далейшых поспехаў.***

**Размаўляў Уладзімір Сідарук**

# „Па сваёй зямлі пахадзіць..."

[1 ☞ працяг]



дэнцкай спулдзельні. Лягчэй было тады паступіць і вучыцца. Здольным былі дадзены большыя шанцы. Мама цешылася. Аднак жа... цяпер сітуацыя прымушае быць ініцыятыўным.

Станіслаў Гурын настаўнічаў у Сувалках, быў таксама намеснікам інспектара асветы ў Сувальскай гміне. Чаму перайшоў у 1987 годзе на пасаду дырэктара школы ў Плацічне? Ну, бо за біюркам не мог больш сядзець. Іншым разам здавалася, што марнуе час... Да сёння вучыць тут дзяцей гісторыі.

Кавалак зямлі ў Плацічне сп. Гурын купіў тры гады таму і адразу пачаў будаваць там стадніну (хаця раней думаў толькі пра малую стайню). Яму і козыр у рукі: жонка яго (з Багноў, што ўсяго ў трох кіламетрах ад Пяцівалок) — архітэктар з дыпломам Варшаўскай політэхнікі. Зрабіла праект. Праўда, крыху злавалася, што муж штораз нешта змяняе. Вось ізноў дакупіў кавалак зямлі. Ізноў нешта можна дабудаваць.

Спачатку на гарышчы мела ляжаць сена, салома. А цяпер будзе там 10 гасцінных пакояў на 25-30 чалавек, расказвае сп. Гурын. І ў кожным — лазенка. Спачатку я меў там зрабіць іх толькі дзве, а дырэктар Вігерскага нацыянальнага парку сп. Шкіруць параіў мне: у сённяшніх умовах такі гатэль не будзе нічога варты, лазенка мусіць быць у кожным пакоі. І праўда, пазванілі французы, і першае пытанне, ці пакоі з лазенкай.

У стадніне сп. Гурын разлічвае больш на замежных гасцей, але дзеля гэтага патрэбны высокі стандарт. Сёлета дабудавалі асобнае крыло, дзе будзе вялікі сталовы пакой. Тут будзе стаяць доўгі стол, а таксама старыя крэдэнсы. І абавязкова — высокія крэслы. Мяркую, кажа гаспадар, што да вясны будзе ўсё гатова.

Адначасова з будовай ужо трэці год ідзе тут звычайная праца стадніны: на будову ж трэба зарабіць. Тут вучаць ездзіць на кані, можна пакатацца на брычцы, наладжваюцца рэйды навокал Віграў на тры-чатыры дні з начлегамі ў леснічоўцы.

Цяпер у стадніне 10 коней, у тым ліку 2 жарабцы. Спадар Гурын не настаўляецца на гадоўлю, а на спорт, турызм. Але, праўду кажучы, часамі дык і не хапае коней.

Толькі адзін працаўнік тут мае штат. Іншыя (моладзь) прыходзяць сюды з замілавання. Я ім дазваляю, кажа гаспадар, паездзіць на конях, а за гэта яны мне чысцяць коней, кормяць іх, прыбіраюць стайню.

Ды і сам гаспадар вечна ў руху: дапамагае будаваць, сам чысціць коней, рыхтуе ім корм, вучыць ездзіць і даглядаць каня. Можна было б прыйсці пасля працы дахаты і гопнуцца ў крэсла перад тэлевізарам, але я так не ўмею, сцвярджае ён. Хачу пакінуць нешта дзецям, а яны ўжо як захочуць. Зрэшты, люблю коней, спорт, турызм.

У Станіслава Гурына трое дзяцей. Старэйшы сын здаў сёлета на права ў Варшаўскі універсітэт. Малодшы яшчэ ў мінулым годзе баяўся ездзіць, а сёлета — о-го-го! Сярэдняя, 13-гадовая дачка, на год старэйшая за брата, цудоўна ездзіць і шмат дапамагае. Яна яшчэ і танцуе. Во, толькі што я завёз яе на тыдзень у Ольштын да майстроў бальнага танца — Раманкевічаў. Але і там перш-наперш заехалі ў Картова, у стадніну, каб пазнаёміцца з ёю. Працаваць і ўпор у дзяцей — вясковыя. Дамагаюцца, каб іх будзіць раніцай, калі я еду ў стадніну. А маглі ж бы яшчэ паспаць і прыехаць пазней аўтобусам.

Міла гаворыцца са Станіславам Гурынам. Ці ў Пяцівалках усе так прыгожа гавораць па-беларуску? — пытаюся я. І ў Сувалках таксама, адказвае мне ён з таямнічай усмешкай.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# Партызанская рэспубліка

**Беларусь падчас II сусветнай вайны атрымала званне партызанскай рэспублікі. На гэтую тэму ўзнікла вялікая літаратура, дзесяткі фільмаў, тэатральных п'есаў і навукова-гістарычная міфалогія. Мільёны жыхароў Беларусі ганарацца тым, што яны самі або іх продкі былі патрызанамі. Легенда патрызанскага народа застаецца жывой і сёння, а традыцыю дзядоў паспяхова працягваюць унукі. Штодзённае жыццё ў Беларусі плыве двума рэчышчамі. Побач афіцыйнай амаль у кожнага чалавека неафіцыйная праца, плата, думка, а таксама іерархія этычных і маральных каштоўнасцей.**

**Бітва за ўраджай**

31 ліпеня г.г. прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка заклікаў свой люд да „бітвы за ўраджай". Ад 3 жніўня аб'явіў надзвычайнае становішча ў дзяржаве, у якой усе сілы і сродкі трэба накіраваць на „жніўны фронт". Беларусь, — заявіў Лукашэнка, — з'яўляецца сёння адзінай краінай, якая дае адпор наступленню Захаду. Фронт пайшоў цяпер далёка на ўсход, а Беларусь, як і ў 1941 годзе Брэсцкая крэпасць, цвёрда абараняе славянскую традыцыю.

Афіцыйна ўсе грамадзяне выказваюць падтрымку „бацьку народа", які вядзе чарговыя бітвы, войны, клапоціцца пра будучыню не толькі свае краіны, але і ўсяе славяншчыны — ад Брэста да Уладзівастока. Неафіцыйна ніхто сур'ёзна не ўспрымае доўгіх прамоваў прэзідэнта. Кожны імкнецца пашырыць неафіцыйную прастору свайго жыцця і ізаляваць яе ад варварскай дзяржаўнай структуры.

Прадпрымальнік, які хацеў бы згодна з законам весці свае інтарэсы, плаціць усе падаткі, вымушаны быў бы аддаць увесь прыбытак і яшчэ праўдападобна атрымалася б у яго задоўжанасць у дзяржаўным бюджэце. Дзяржаўны закон прадбачвае, напрыклад, абавязак аддаваць прадпрымальнікам у банк замежную валюту, зробленую ў выніку гаспадарчай дзейнасці. Аднак банк плаціць ім толькі 38 тысяч беларускіх рублёў за адзін долар, калі ў канторах яго курс дасягае 58 тысяч. Афіцыйная гаспадарчая дзейнасць патрабуе таксама, каб прадпрымальнікі куплялі валюту ў дзяржаўных банках, але тады курс долара перавышае 70 тысяч рублёў.

Як і ва ўсім свеце, у Беларусі інтэлігентныя людзі стараюцца абмінаць нявыгадныя ім законы. Адна з формаў гэтага — стварэнне расейска-беларускай суполкі, у якую расейскі партнёр уносіць толькі свой пашпарт. Грошы, атрыманыя ў выніку гаспадарчай дзейнасці, у сапраўднасці ўласнасць беларускай фірмы, ідуць на рахунак расейскага партнёра ў расейскім банку. Беларускі прадпрымальнік вымушаны сесці ў маскоўскі цягнік або свой аўтамабіль, каб узяць свае грошы і ў чамадане прывезці іх у Менск. Афіцыйна тыя грошы нідзе не зарэгістраваны. Расейскі партнёр за тое, што пазычае сваё прозвішча і пашпарт, атрымлівае прыблізна 10 працэнтаў ад прыбытку. Беларускі прадпрымальнік афіцыйна не з'яўляецца прадпрымальнікам, а толькі дырэктарам расейскай фірмы. Супрацоўнікі ў такой фірме афіцыйна атрымліваюць плату велічынёю ў 50 амерыканскіх долараў і ад такой сумы плацяць падаткі. Неафіцыйна, са сродкаў прывезеных у чамадане дырэктар дае ім яшчэ каля 150 долараў. Зразумела, ад гэтай апошняй сумы ніхто ніякіх падаткаў ужо не плаціць. Такім чынам узнікае дасканалая сістэма, ад самага верху ўлады да найніжэйшых форм дзейнасці, дзе нічога, што афіцыйна сказанае ці напісанае не мае ніякага адлюстравання ў рэальнасці.

**Беларускі аўтабізнес**

Андрэй, які жыве ў малым мястэчку на Магілёўшчыне, ад некалькіх гадоў афіцыйна нідзе не працуе. Яго жонка настаўніца зарабляе 29 долараў у месяц. Маюць яны дачушку і, як кажа Андрэй, гэтай настаўніцкай платы хапае ім на харчаванне на адзін тыдзень. Каб неяк жыць, Андрэй у сярэднім два разы ў месяц выязджае ў Нямеччыну, Аўстрыю ці Галандыю за аўтамабілямі. Раней хтосьці зацікаўлены купляй заходняй машыны дае яму ўсе яе параметры — марка, колер, год вытворчасці. Выезд з Беларусі ў „імперыялістычную" краіну даволі складаны. Найважнейшая тут віза, якая каштуе каля ста нямецкіх марак. Аўтамабіляў у цане 1000-2000 долараў на Захадзе дастаткова, таму пасля пару гадзін пабыўкі, напрыклад, у Амстэрдаме, можна вяртацца на новакупленай машыне. Дарога ў Беларусь вядзе аднак праз Польшчу, Украіну і Расію. Паміж Беларуссю і Расіяй існуе менавіта 5-кіламетровая зона, як бы нічыя. Там Андрэй сустракаецца з пакупнікам аўтамабіля, які ад гэтай пары клапоціцца за яго юрыдычную рэгістрацыю. Паводле беларускай дакументацыі Андрэй ніколі не меў ніякага дачынення да гэтай машыны. За паслугу атрымлівае ў сярэднім каля 500 долараў. Дзесяць працэнтаў вымушаны аднак аддаць мафіі за апеку.

**Мафія**

— „Бандзёры", — кажа Андрэй, — не бяруць грошай дарма. Часам здараецца, што нехта з пакупнікоў аўтамабіля не хоча заплаціць дамоўленую суму. На міліцыю не пойдзеш, таму што можна патраціць яшчэ больш. Хапае аднак пазваніць „бандзёрам", а несумленны пакупнік прывозіць табе суму ўдвая большую чым быў вінаваты. Зразумела, ён таксама плаціць мафіі за тое, што выратавала яго ад бяспамяцтва.

Мафія стварыла свае законы. Дзяржаўныя можна праігнараваць, мафійныя — не варта. Тыя, што плацяць падаткі для мафіі, — кажа Андрэй, — могуць разлічваць на яе дапамогу ў выпадку нейкіх клопатаў. Падаткі ў дзяржаўны бюджэт — гэта зусім патрачаныя грошы. Кожны, хто спрабаваў шукаць справядлівасці ў міліцыянераў або суддзяў пераканаўся, што каштуе гэта ў некалькі разоў больш, чым плата для мафіі, а вынік судовых працэсаў — заўжды няпэўны. Дзяржаўны апарат даўно перастаў служыць грамадзянам. Каб толькі не перашкаджаў людзям жыць, — сцвердзіў на заканчэнне Андрэй.

**Яўген Міранoвіч**

# З'езд у Вільні



*Хведар Нюнька, Лявон Баршчэўскі, Пятро Ючшук, Зянон Пазьняк, Радзім Гарэцкі.*

[1 ☞ працяг]

і вырашэнняў (між іншым справа скарбаў музея Івана Луцкевіча, кватэры Янкі Купалы, расшырэння дзейнасці віленскай газеты „Рунь" на ўсю Балтыю, далейшае паглыбленне і пашырэнне кантактаў паміж беларусамі рэгіёна, абмен досведам грамадскай і культурна-прасветнай працы на ніве зберажэння нашых нацыянальных каранёў і беларускага аблічча ў свеце), патрабаваў акрэсленых адносін дэлегатаў з'езду да становішча Бацькаўшчыны, дзе глумяцца беларуская мова і парушаюцца правы чалавека. Гэта знайшло свой выразны адбітак у пратаколе рэдакцыйнай камісіі (Сяргей Вітушка — старшыня, Алег Мінкін (Летува), Міраслава Лукша і Вячаслаў Харужы (Беласточчына), Лявон Кавалюк (С.-Пецярбург), Анатоль Грыцкевіч (Беларусь), Зінаіда Клыга (Эстонія), Мікола Кузняцоў (Латвія), Зянон Пазьняк). Паколькі арганізатары (перш за ўсё Таварыства беларускай культуры ў Вільні), людзі незалежныя ў сваіх дэмакратычных думках, сумленныя беларусы і адданыя беларускасці дзеячы, ясна паставілі справу за што стаць, ужо ў фазе арганізавання з'езду адлучылася група іншых арганізацый (Згуртаванне беларускіх грамадскіх арганізацый у Летуве), павязаная між іншым працай у ведамствах, асобы, якія супрацоўнічаюць з мінскім рэжымам. На з'езд гэтыя *апазіцыянеры* былі запрошаны як госці, ды прабавалі акрэсліць вуснамі аднаго са сваіх дзеячаў гэты з'езд непаўнамоцным і пасеяць сумнеў у душах дэлегатаў і гасцей, не зарыентаваных у складанасцях беларускай летувіскай сітуацыі. Найбольш устрывожылася Ганна Сурмач, старшыня Галоўнай рады Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына", якая, вядома, за тое, каб тая жменька свядомых беларусаў ішла разам. Але, спадарыня Ганна і нашы ўсе беларусы, ці то ў Літве, ці ў нас на Беласточчыне, ці дзе яшчэ — або бярэм кляймо на руку і чало са знакам бестыі і стаем разам з яе памагатымі ў адзін рад, або не! Пасрэдняга выбару быць не можа!

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*

# Сувалкі баяцца беларусаў

Сувалкі неўзабаве перастануць быць ваяводскім горадам. Перспектыва вяртання ў Беластоцкае (Падляшскае) ваяводства многіх палохае. І гэта па прычыне пражываючых тут беларусаў.

— Wszystkie nasze pieniążki na białoruską mniejszość pójdą, — кажа пані этнограф з Ваяводскага дома культуры ў Сувалках.

— Bo to przecież Białorusini całym Białostockiem trzęsą. Mają swoją telewizję, radio, uczelnie, gazety.

Не без гордасці слухала я пані этнограф, якая маёй сувальскай сям'і расказвала пра непераможных, магутных і ўладарных беларусаў. Час ад часу мяне таксама трэсла ад смеху! Дагэтуль прыходзілася мне слухаць адно нараканні беларусаў на тое, як іх праследуюць у Польшчы, а асабліва ў Беластоку. Як за няпольскае прозвішча не ўдалося суродзічам закончыць вышэйшую ўстанову або зрабіць кар'еру.

І вось, нарэшце, этнограф з Сувалкаў даказала, як на самай справе выглядае жыццё Беласточчыны.

— O, gdyby państwo wiedzieli jak w Białymstoku dyskryminują naszych studentów! Tam lepiej się nie przyznawać, że jest się z Suwalszczyzny! — гаварыла, быццам поўнасцю верыла ў сказанае. Пані этнограф пераплюнула пасла Сычэўскага, сцвярджаючы, што на Беласточчыне жыве пяцьсот тысяч беларусаў.

— Oni są niebezpieczni, — дадала, — bo zwykle się ukrywają. **(гак)**

# Патрэбны конкурс

Ужо завяршыўся III Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. Я ў ім прымаю ўдзел ад пачатку і колькі хопіць мне сіл, ніводнага конкурсу не адпушчу.

Па-мойму, такі конкурс вельмі нам патрэбны, бо ён садзейнічае прывіванню любові да роднай мовы, культуры, фальклору і паэзіі. А калі прападзе народная культура і абраднасць, тады прападзе і народ, а да гэтага нам дапусціць нельга.

Кожны год павялічваецца колькасць удзельнікаў конкурсу, штогод з'яўляюцца новыя людзі. Конкурс — сама лепшая нагода для выяўлення літаратурных схільнасцей сярод маладых людзей, прыцягнення іх да актыўнага ўдзелу ў стварэнні нашай культуры тут, на Беласточчыне. Шчыра дзякую арганізатарам конкурсу — Беларускаму саюзу і рэдакцыі „Нівы", ды заклікаю іншыя беларускія арганізацыі падтрымаць гэтую ініцыятыву і ўключыцца ў яе правядзенне ў наступным годзе. А я сам ужо рухтую матэрыял на чарговы конкурс.

**Мікалай Лук'янюк**

**Міхась Андрасюк**

# Краявід без клямкі

*(заканчэнне; пачатак у 31 нумары)*

### III

Коко рыхтуе чай. Не ведаеш як зварыць чай? Жартуеш, ці што? Дык вось глядзі. Глядзі ўважліва і вучыся. Гарбата, вада, кубак. Замест кіпяцільніка — два лёзы. Вады мала, гарбаты многа. Калі ў кубку атрымаецца густая, чорная, пякельная цякучая смала, значыць — твой чай першы сорт. Разумееш? Ну, досыць. Ты ўжо ведаеш, другіх вучыць — не нам задача.

Коко вызваляецца ад алкагалізму. Цяпер ён Коко, а раней, пакуль трапіў у гэтае подлае месца, зваўся звычайна: пан капітан Какоўскі. Салдаты пружыніліся перад ім, аддавалі ваенную пашану, а пан капітан казыраў салдатам нядбайна, прыкладаючы два пальцы да брыля, ды маршыраваў у свой бок крокам, які супярэчыць вайсковым статутам. І вось цяпер, на другім аддзеле, Коко адвыкае ад гарэліцы. Адвыкае паступова, калі аднак немагчыма стрымаць дрыжанне рук, калі смактанне ўнізе жывата кідае чалавека на сцяну, калі галаву расколвае ўзрастаючы грукат, у такіх выпадках даводзіцца рыхтаваць нейкі заменнік. І Коко гатуе чай.

— Піць такую погань, — кажа, — аднолькавая прыемнасць, як і моршчыць васю. Але, — уздыхае з сарамлівай усмешкай, — у палявых умовах здараюцца непрадбачаныя нявыгады.

Не пярэчыш, бо і як пярэчыць, калі гаворыць такое спрактыкаваны ў палявых справах афіцэр.

— Вось, каб так чарачку каньяку, — аддаецца марам, а яго твар святлее, прыгажэе, амаладжваецца. У такіх хвілінах людзі заўжды прыгажэюць, як і заўжды супроць мрояў стае якісьці кубак чорнай, смалістай гарчэчы. І Коко асцярожна, каб не апарыцца, сасмаглымі вуснамі заглыбляецца ў сваю гаркоту, а думкамі — хто ведае — мо перамервае прасторныя палігоны, мо наведвае прасякнутыя потам казармы, а мо толькі ўяўна моршчыць васю, здаючыся ў палон смутнай рэчаіснасці.

— У арміі быў? — пытае, дык кажаш, што не, не пара яшчэ. Але ваенны білет ёсць. І катэгорыя — як трэба.

— Хітрун, — круціць галавою Коко. — Жартаўнік. А тут ты, значыць, выпадкова? Ой, не хочаш ты ставаць за радзіму, ведаем такіх. Але, — махае рукою, — ты не першы, не апошні.

Ведае Коко жыццё, што тут гаварыць. Усё-такі — афіцэр ён. А табе ў афіцэры ні ху-ху. Ні ў міліцыянеры, ні ў настаўнікі, ні ў інжынеры. Калі добра падумаць — нікуды табе не хочацца. Хаця — хто ведае, мо гэта і не зусім праўда? Табе васемнаццаць. Сядзіш — другая парта з канца, урок матэматыкі, праваруч — Райка. Пшанічна-жоўтыя валасы сплываюць далікатнымі хвалямі на квяцісты каўнерык шаўковай блузкі, два блізнячыя ўзгоркі на грудзёх падымаюцца і ападаюць згодна з рытмам дыхання, і ўяўляеш сабе іх цёплую мяккасць, і свежасць майскай травы, і спружыністасць студзеньскіх промняў рассыпаных у сталёва-сіні снег.

x + 2x + 25x + бясконцасць...: Ад гэтых іксаў і бясконцасцяў табе хочацца між Райчыны калені. Гвалтоўна і нецярпліва, як гэта ў васемнаццаць. А яна — не! Усміхаецца і ў яе ўсмешцы ёсць абяцанне: мо заўтра? мо паслязаўтра? А табе васемнаццаць і не разумееш, чаму лепшаму заўтра не быць сёння, ужо, зараз жа! Не памагае ні паўсвятло фатаграфічнага атэльэ, ні заўчасна прыдбанае віно, нат Ленан дарма падспеўвае з грамафона маркі „Бамбіна". Не дык не! Калі няма таго, што хочаш, хочаш тое, што ёсць і накіроўваешся ў другі бок, туды, дзе кажуць „так".

А „так" — кажа чорная Гэлька. Ленка? Зрэшты — якая розніца? Галоўнае, што Гэлька не адмаўляецца і хто ведаць хоча, той аб гэтым ведае.



*Фота Уладзслава ЗАВАДСКАГА*

І ўсе кахаюць Гэльку, як кахаецца першую настаўніцу, і помняць, як помніцца першы крок у дарослаць, і шануюць, як шануецца зброю помсты.

На паддашку, між фатаграфічнае атэльэ і школьную канцылярыю, невядомыя архітэктары — свядома, альбо і не — упхнулі маленькае, лішняе афіцыйнай навуцы памяшканне. Старая чарапіца сям-там прапускае вузкія стужкі святла, дастаткова ярказ, каб вылавіць з мораку бель Гэльчыных сцёгнаў. За сцяною школьная сакратарка нешта друкуе на машынцы. — Стук-стук-стук, — паддае рытм машынка. Уключаешся ў гэты рытм, а потым, мімавольна зусім, апярэджваеш яго, спяшаеш, паглыбляешся ў тайныя раёны часу і прасторы, дзе бель і чарната кандэнсаваныя да непрытомнасці, раптоўна прадзіраюцца, распырскваюцца на ўсе магчымыя колеры.

— Стук-стук-стук, — наскі Гэльчыных туфляў высока, над галавою недзе ўзлазяць на счарнелыя кроквы, на абымшэлую чарапіцу, ператвараюцца ў птушку, у воблака, у абсалютную пространь, без дна і без мяжы. А на цябе сплывае спакой пераможца, і сытасць мсціўца, і самазадаволенасць разбуральніка. У першую хвіліну не думаеш нават, што адпомсціў і каму, як і не здагадваешся, што і дзеля чаго разбурыў? Каханне? У васемнаццаць усюды яно ёсць і нідзе няма яго.

Зімовы вечар пачынаецца зараз пасля поўдня. Халоднае сіняватае сонца апускаецца на ліпавыя кроны і ліпы ценем кладуцца ў дыяментавы снег. Паўзуць далей і далей ад родных пнёў, ад жыватворных каранёў, і халадзеюць, і чарнеюць, аж, пераступіўшы нябачную мяжу, знікаюць, расплываюцца ў мёртвай, бясформеннай плоскасці. Уяўнае напэсце вядзе ў тупік, — думаеш, спаглядаючы за акно. А акно і не акно ўжо, а чорнае люстра і тваё аблічча спазірае з чорнага бяздоння. Здзіўляешся: няўжо — гэта я? Страшная думка, што ты — сам сабе чужынец! — напаўняе вячэрнюю цішыню.

— Пілюлькі, — медсястра Чэся, рослая, закругленая спелай, эратычнаэкспансіўнай жаноцкасцю, перасоўваецца між ложкамі, абдзяляе каго чым. Сінія, зялёныя, чырвоныя пілюлькі з маленькіх кілішкаў высыпае на слухмяна падстаўленыя далоні. Выпадкова нібы, апускаеш руку ніжэй і медсястра схіляецца, а накрухмалены фартух на адну кароткую хвіліну моргае заружавелымі зрэнкамі цяплом набрыняклых грудзей. Цесна гэтым птушкам у клетцы станіка, — думаеш. А табе васемнаццаць, і таксама ж нявыгадна ў памяшканні без клямак. Вырвацца на волю разам з сакавітымі цыцкамі медсястры Чэсі, чаго больш і трэба! Не ты адзін так думаеш. На ложку, першым, калі б лічыць ад дзяжуркі медсясцёр, уцякае ад пачэснага абавязку вайсковай службы Мірак, а ўцякаючы, пільна сочыць за кожным крокам Чэсі. Бо Мірак не любіць армію. Ён любіць „Мальбора", свабоду і прыгожых жанчын. Такіх вось, як Чэся.

— Я мушу яе ... — не канчае, хаця і так можна здагадацца, што ён мусіць. — А калі я задумаў, тады мур-бэтон. Праўда, сёстро?

— А мяне цікавяць хлопцы так больш-менш пад трыццаць, — агрызаецца Чэся. — І каб не было недамоўкі, не ўзрост маю на думцы.

Але Чэся агрызаецца так толькі, дзеля прыстойнасці. У зялёных вачах пабліскваюць какетлівыя іскрынкі, а ружовыя птушкі мацней і мацней трапечуцца ў накрухмаленай клетцы. І Мірак ведае. Неадукаваны ў ваеннай справе, тут ён аднак з цярплівасцю выдатнага стратэга штурмуе Чэсіну барыкаду. Хто ведае, мо і споўніцца той апавяшчаны мур-бэтон?

— Яшчэ месяц і могуць мне... — вялікі палец Мірак прыстаўляе да разрэза ў нагавіцах, а чатыры апошнія перабіраюць паветра, быццам бы ігралі на нябачнай гітары. — Вось што праз месяц могуць мне зрабіць усе вайсковыя камісіі. Але яе, — спаглядае на дзверы, за якімі схавалася Чэся, — яе раней я, пабачыце.

Міраку месяц. А колькі табе яшчэ? — думаеш, заглядаючы ў чорнае люстра. Унізе, за голымі ліпамі, мястэчка рыхтуецца да звычайных, вячэрніх спраў. Жоўтымі прамавугольнікамі вытыркаюцца з мораку вокны, дымяць каміны і дым няспешна вандруе, уздымаецца ў бязветраную, крышталёвую высь, туды, дзе задзіраючы рогі маладзік абыходзіць даручаны яму ўчастак касмічнай імперыі.

Між вечарам і раніцой западаеш у сон. Прымяркоўваешся да нябыту і нават не ведаеш, што такім чынам даеш згоду на вякамі ўстаноўлены парадак рэчаў і здарэнняў. Сон — уяўная смерць, абуджэнне — першае ўваскрэсенне. А колькі трэба часу на ўваскрэсенне апошняе? Не ведаеш. А вось Збышак пэўна ўжо і ведае, але сказаць табе так і не скажа. Ляжыць трыццаць метраў ад адміністрацыйнага будынка, нерухомы ўжо, а яшчэ некалькі хвілін таму назад падрыгваў, біўся ў смяротных канвульсіях, згартаючы пад сябе змёрзлы снег, быццам бы хацеў адагнаць, суцішыць апошні боль.

Сыходзілі з панам Франкам па лесвіцы і пан Франак паслізнуўся, прысеў на хвіліну, а Збышак нырнуў у белую сцежку, наляту дастаў з кішэні брытву, расчыніў яе і пякучым лязом рэзануў свой кадык...

Колькі крокаў можа зрабіць чалавек з парэзаным горлам? Падручнікі не пішуць пра гэта, а вось Збышак зрабіў такіх крокаў дзевяць. Ляжыць цяпер нерухома на стаптанай сцежцы, побач адвярнуўшыся спіной ванітуе пан Франак, а з-пад зялёнай Збышкавай курткі выпаўзае ўсё яшчэ жывая кроў. Распаўзаецца далей і далей, не здагадваючыся, што яе місія ажыўлянння нежывога якраз закончылася, а снежная, агромная губка вып'е цёплую чырвань да апошняй кроплі.

— Навошта людзі носяць у кішэнях брытвы? — пытае Коко.

— А навошта носяць клямкі? — адказвае чыйсьці голас. Не глядзіш нават, хто гэта сказаў, але згаджаешся: навошта?

Панура распачынаецца новы дзень. Збышкаў ложак, абдзерты ўжо з пасцелі, міжвольна прыцягвае зрок. Стараешся не глядзець туды, а ўсё-такі зазірнеш, бы той настаўнік фізікі на дзявочыя майткі.

— Чаму ён так, — схіляецца над кубкам чаю Коко. Сёрбае асцярожна і адразу відаць, што сённяшні чай мае зусім іншы, горкі і непрыемны смак.

— Дзіўны быў, — пацiскае плячамі Мірак. — Зрэшты, не першы раз выправіўся ў такую дарогу.

— Толькі цяпер вось дзейсна.

На Міракавым століку стыне збожжавая, прыпраўленая бромам кава. Бачыш на ёй далікатную, срэбна-сівую плевачку? А на зубах чуеш саладжавы, металічны смак? Значыць, медыцына клапоціцца, каб твае мужчынскія сілы надта тут не буйнелі. Інстынкт — першы вораг дысцыпліне.

А вось бром — галоўны вораг Міраку. І Мірак доўга аглядае рассыпаныя на далоні пілюлькі, спаглядае на Чэсю, на алюмініевы кубак, усміхаецца прыжмуранымі вачыма.

— Ды як будзе, сёстро? Піць гэту каву, ці не піць? Ото ест пытане!

Чэся таксама ўсміхаецца. Высунуўшы ніжнюю губу, дзьмухае на свой кураносы тварык, а шпаркасць гэтага ненатуральнага дыхання адкідае з-над вачэй кучаравую, залатую грыву.

Значыць — усё нармальна. Свет нанава стае на свой звычайны, раней прадбачаны пуць і толькі добра напружыўшы зрок, на Збышкавай падушцы дагледзіце далікатную ўгнутасць, след ад ягонай галавы. Дык і ён, хвіліна за хвілінай, падымецца, выпрастаецца, закругліцца, як закругляецца і зарастае травою наш шлях і наш час.

За кругаглядам, з новымі рэзервамі зелені стаіць вясна.

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Вершы Віктара Шведа

### „Удалы” адпачынак

З летняга лагера ў Карпатах,
Дзе між гор дрэмле гарадок,
Піша кароткі ліст дахаты
Надта гарэзлівы сынок.

— Пабыўка цалкам удалася,
Сярод прыгожых гор, лясоў.
Мая нага зусім зраслася,
Хутка вярнуся ўжо дамоў.

### Уцёкі з урокаў

Янку завуць у школе
Лянотай, абібокам.
Загітаваў ён Колю,
Каб уцячы з урокаў.

— Дык скажуць аб прагуле
І будзе ў хаце бойка.
— Усцешыцца матуля,
Што не прынёс ты двойкі.



Энтузіясты беларускіх конкурсаў з Чыжоў. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Творчасць школьнікаў

### Неба

Сіняе,
блакітнае.
Хмурнае,
пагоднае —
яно заўсёды-заўсёды цудоўнае.
У ім сонейка смяецца, свеціць,
і з ім весяляцца дзеці.
З неба дождджык падае
драбненькі,
людзям на іх свет сухенькі.
Неба над намі прыгожае вісіць,
і ўсіх дзяцей цешыць.
Уночы бліскае зоркамі,
сваімі добрымі сяброўкамі.
У дзень неба сонейкам свеціць
і хмары кіруе па ўсім свеце.
Неба — зямны скарб і багацце,
якога не заступяць горы золата.
Думаю цяпер я,
што трэба неба шанаваць.

### Бусел

Прыляцеў бусел і стаіць
на гняздзе,
вясну ён чакае.
Выглядае, выглядае,
нават не лятае.
Перастаў гуляць,
сумны стаіць, бо вясны няма.
Стаіць, ён стаіць,
і вакол не глядзіць.
А тут і кветкі цвітуць
і птушкі вясёлую навіну нясуць.
„Вясна, вясна”, —
яны наперамен крычаць.
Пачуў гэта бусел
і радасна заклекатаў:
„Ужо прыйшла вясна,
вясна ўжо прыйшла”.
І так прыходзіць яна штогод,
на яе прыход спяваюць птушкі
цэлы год!

### Матылёк

Матылёчак у нас жыў,
І як кветачка ён цвіў.
Крылы ў яго каляровыя,
і чырвоныя, і ліловыя.
Апрача таго на крыллі ў яго
многа было ўсяго.
Матылёк меў і вочы,
яны былі як зоркі ўночы.
Аднойчы захацелася яму,
палётаць, не на лузе, а ў ляску.
Ён знаў, што лес — строгі
і вельмі хваляваўся ад трывогі.
Адвага ў яго перамагла
і ў лес ён паляцеў пагуляць.
У тым лесе ён прапаў,
і свет матылькова пра яго
не памятаў.
І так канчаюцца хвіліны жыцця
прыгожага няўважлівага матыля.

**Кася ЯРАШЭВІЧ,**
**ПШ у Кнарыдах**

## Сустрэча з беларускім рокам



Лявон Вольскі, Кася Камоцкая, Слава Корань — класікі беларускага рока. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Прывітанне, „Зорка”!**

Я хачу напісаць пра свае ўражанні з „Басовішча”. Дагэтуль я не ведала, што існуе беларуская маладзёжная музыка. На „Басовішчы” я сустрэла рок-гурты як „Крама”, „Палац”, „Брага”, „НРМ” ці этнаграфічны гурт „Крыві”. Іх музыка па сённяшні дзень не дае мне спакою. На шчасце я купіла касеты з музыкай „Палацу” і „Крыві”. І безупынна слухаю іх цудоўныя шэдэўры.

„Басовішча” мне вельмі падабаецца. Перш за ўсё, сустрэла я там сваіх сяброў з Бельска-Падляшскага і Орлі. На „Басовішчы” я пазнаёмілася з моладдзю з Мінска, Беластока і Холма. Наканец мы спявалі беларускія песні, якія пяснялі нам менскія сябры. Пасля „Басовішча” мне захацелася акуратна навучыцца беларускай літаратурнай мовы. Прынамсі настолькі, каб напісаць культурна ліст сваім новым сябрам з Мінска.

**Кася ПАПЛАЎСКАЯ,**
**Бельск-Падляшскі**

## Вясёлы куточак

— Чаму кожная спрэчка канчаецца ў вас дракай? — пытаюць у судзе абвінавачанага. — Разумны павінен даравацъ дурнейшаму!

Абвінавачаны:

— Ды чаму гэты дурань не хоча паверыць, што я за яго разумнейшы?!

* * *

Жаўнер, які быў на вайне, расказвае сябрам:

— Разня страшэнная была, я такама аднаму нагу адсек.

— Чаму нагу, а не галаву?

— Бо галаву ўжо іншыя адрэзалі.

* * *

— Скажыце, што вываражыла вам цыганка?

— Што буду мець патраты.

— І што?

— Як яна выйшла, я заўважыў, што прапаў срэбны гадзіннік.

**Даслала Паўліна КАНДРУСІК**
**з Бельска-Падляшскага**

## Тры браты і мудры старац

*(албанская казка)*

Жылі ў адным доме каля самага балота тры браты разам са сваім бацькам. Аднак кожны ведае, што жыць каля балота кепска: ад яго адна шкода і ніякай радасці.

Вось прыйшоў час бацьку паміраць. Паклікаў ён сваіх сыноў і сказаў:

— Слухайце, сыны! Трэба вам з гэтай мясціны перасяліцца. Беды і хваробы пасылае нам балота. Пабудуйце сабе дом дзе-небудзь на схіле гары, тады і зажывяце па-добраму, але, перш чым прыступіце да справы, парайцеся з мудрым старцам, які жыве ў лесе.

Час ішоў, і бачылі браты, што бацька казаў праўду. Трэба ім уцякаць з балота. Параіліся яны паміж сабой і вырашылі, што пойдзе старэйшы брат у лес да мудрага старца прасіць парады: уцякаць ім ці не.

Вось прыйшоў старэйшы брат да мудрага старца і пытаецца:

Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага

# Каму чыгун мыць?

Пад'есці-то пад'елі, а хто чыгун будзе мыць? Паны сварацца, ледзьве за чубы не хапаюцца, а чыгун стаіць сабе, чорны, як мурза.

— Гэтак мы не дамо рады, — кажа нарэшце пан Кубліцкі. — Згуляйма ў карты. Хто „дурнем" застанецца, таму і чыгун мыць.

— Згода, — буркнуў пан Заблоцкі.

Сядаюць за карты. Пан Кубліцкі набраўся козыраў, што жаба мулу, дый сядзіць з імі — кум каралю, а пан Заблоцкі ад прыкрасці сапе гэтак страшна, быццам у ягоным носе шэршні завяліся. Атрымлівае свайго „дурня", але чыгун мыць нават і не збіраецца.

— Пан манкіруе! — крычыць. — Пан ёсць манкірант, падглядае карты. Гуляйма яшчэ раз.

Гуляюць ізноў. На гэты раз у „дурнях" сядзіць пан Кубліцкі. Але і ён не збіраецца чыгун мыць, кажа, што да трох разоў трэба гуляць. Распачынаецца ў іх карцёж доўгі, зацяты.

Гуляюць вечар, гуляюць ноч, ды з гэтакім газардам, што на голад, на сон забыліся. Праходзіць дзень, мінаецца другі... Ужо тысячу разоў згулялі, не меней. Не тое што чыгун — уся хатка зарастае брудам, зруб у зямлю ўваходзіць аж па самыя кроквы, на страсе палын, чартапалох буяе, грыбы-шампіньёны павылазілі.

Вось ідзе з суседняе вёскі селянін, Ахрэм Верацённік. Вядро ды рыдлёўку з сабою нясе, збіраецца на рэчцы Парэчцы ўюноў лавіць. Ідучы праз панскі фальварак, бачыць ён дзіва: замест хаты адзін комін тырчыць. А з коміна, з-пад зямлі чуюцца сярдзітыя галасы:

— Уга, зноў пан у „дурнях" сядзіць!

— Каб пан у чыстым полі каменем сеў, як я сяджу!

Ахрэм Верацённік давай раскідаць зямлю рыдлёўкай, вокны ды дзверы вызваляць. І вось паны выпаўзаюць са свае зямлянкі, тварам зялёныя, з няголенай шчэцю, з доўгімі пазурамі. Сурдуты іхнія сатлелі, голыя скабы скрозь лахманы свецяцца. Ахрэм Верацённік як бачыш назбіраў шампіньёнаў, памыў чыгун ды зварыў на вогнішчы поліўку. Пад'еўшы, пан Кубліцкі з панам Заблоцкім пачынаюць спрачацца, каму чыгун мыць. А не прыйшоўшы да згоды, зноў сядаюць гуляць у карты.

Нават Ахрэму за паратунак не падзякавалі. Яшчэ на яго ж і бурчэлі, што перапаніў гульню.

От жа натурыстыя, каб іх віхор падхапіў ды панёс!

*(працяг будзе)*

**Пятро Васючэнка**

Мае падарожжы

# Грабніца Агамемнона



У Грэцыі мне давялося пабываць у Мікенах. Яны знаходзяцца на Пелапанесе, у яго ўсходняй частцы.

Раён Мікенаў з'яўляецца адным з найраней заселеных тэрыторый у Грэцыі. Першыя людскія пасяленні існавалі тут ужо ў эпоху нэаліту (тады прылады і зброю рабілі з каменя), каля 3000 гадоў да новай эры. Асаблівае развіццё Мікен прыпадае на гады 1550-1200 да новай эры. Гэты перыяд называецца мікенскім і адносіцца не толькі да ваколіц Мікенаў, але і ўсёй высока развітай цывілізацыі паўднёвай Грэцыі ў той час.

Паводле легенды, расказанай Гамерам у эпічнай паэме „Іліяда", Мікены былі заснаваны Персеем, забойцам Медузы. Пазней тут правіў род крывавага цара Атрэя. За тое, што яго брат заляцаўся да яго жонкі, ён забіў двух ягоных сыноў і пачаставаў брата стравай з іх цел.

Помста багоў перайшла на наступнае пакаленне, а менавіта на сына цара Атрэя — Агамемнона. Калі той вярнуўся з Траянскай вайны, дзе ахвяраваў жыццё сваёй дачкі Іфігеніі (выратаванай аднак), быў забіты, калі купаўся, сваёй жонкай Клітэмнестрай і яе каханкам Эгісфам, сынам бацькавага брата, які раней забіў і яго бацьку.

Тады за Агамемнона адпомсціў яго сын Арэст, забіваючы сваю маці Клітэмнестру. Толькі Афіна зняла праклянцце з гэтага роду.

Калі Агамемнон ішоў на Трою, то ён лічыўся наймагутнейшым чалавекам свету. Мікены, пабудаваныя з велізарных каменных блокаў на высокай скале, да сёння з'яўляюцца загадкай. Як тагачаснымі спосабамі будавання, фізічнай сілай чалавека ўдалося падняць на такую вышыню цяжэзныя блокі?..

Грабніца Агамемнона знаходзіцца ніжэй горада, у 400 метрах ад яго. Гэта манументальны прыклад будаўніцтва мікенскай цывілізацыі. Гэта будоўля напамінае вулей дзікіх пчол і выканана без выкарыстання цэменту, толькі з каменя.

**Адрыяна Семянюк**

*Фота аўтара*

# Польска-беларуская крыжаванка № 33

Запоўніце клеткі беларускімі словамі.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ▶ | | | Pokaz | Gad | Płaz / Papier ▶ | ▼ | | ▼ | | ▼ | | Szeregowy |
| Sum | Okrąg | Rzeka | ▼ | Góra / Koza | ▶ ▼ | | | | Pomówienie | | Arak | ▼ |
| Kraków ▶ | ▼ | ▼ | | ▼ | | | Kod ▶ | | | | Lew | |
| ▶ | | | | | | | | | Ala ▶ | | ▼ | |
| Krokodyl ▶ | | | | | 📖 | | 📖 | | Wiek ▶ | | | |
| Zarządzenie / Nafta ▶ | | | | | Przypływ ▶ | | | | | | | 📖 |

**Адказ на крыжаванку н-р 29:**

Жах, дождж, Жыж, жанр, жыта, вуж, каза, ара.

Вожык, жыта, джаз, атава, Нур, іржа.

— Як нам быць? Ці кепска мы зробім, калі з балота пойдзем і пабудуем сабе дом на схіле гары? Як скажаш?

— Кепска, — адказаў старац, не пакідаючы справы, якою быў заняты.

Не стаў старэйшы брат болей яго распытваць і, апусціўшы галаву, зажураны, пайшоў дахаты.

Дома ён перадаў братам адказ старога.

— Ды ці расказаў ты яму пра нашы няшчасці? — усклікнуў сярэдні брат. — Пайду я сам і растлумачу старцу, як мы жывём...

І ён пайшоў у лес.

— Скажы, шаноўны, — звярнуўся ён да старца, — як нам быць? Каля балота жыць больш няма сілы. Беды і хваробы замучылі. — І ён з трывогай спытаў: — Як ты думаеш, ці варта нам пайсці адсюль? Ці кепска будзе, калі мы пабудуем дом на схіле гары?

— Кепска будзе, — зноў адказаў старац.

Вярнуўся і сярэдні брат дамоў зажураны.

Выслухалі яго браты.

— Ну што ж, — весела сказаў малодшы брат, — цяпер, відаць, мая чарга ісці да старца.

І пайшоў ён у лес.

Падышоўшы да старца, пакланіўся яму нізка малодшы брат, прысеў на пянёк і сказаў:

— О мудры старац! Паміраючы, бацька наказаў нам пайсці з балота, дзе мучаць нас хваробы і беды. Ці добра будзе, калі мы пабудуем сабе дом на схіле гары? Як ты нам параіш?

— Вельмі добра будзе, сын мой! — адказаў старац.

У малодшага брата быццам крылы ад радасці выраслі. Падзякаваў ён старцу і пабег дамоў, дзе яго з нецярплівасцю чакалі браты.

— Браты! — крыкнуў малодшы. — Мудры старац сказаў, што будзе вельмі добра, калі мы пабудуем дом на схіле гары!

Тыя толькі раты разявілі ад здзіўлення.

— Як жа так? — разам спыталі яны. — Чаго ж ён смяяўся з нас?

Пабеглі яны ўсе трое ў лес.

— О мудры старац! — сказаў старэйшы брат. — Ты хіба смяяўся з нас? Чаму ты мне і сярэдняму брату сказаў, што кепска будаваць дом на схіле гары, а малодшаму брату сказаў, што дабра?

— Я і не думаў смяяцца, — адказаў старац. — Вы спыталі ў мяне: „Ці кепска будзе, калі мы пабудуем дом на схіле гары?" А малодшы брат сказаў так: „Добра ж будзе, калі мы пабудуем дом на схіле гары?" І я яму адказаў: „Вельмі добра будзе!" Я адказаў яму так, бо ён пачаў з добрага, а вы з благога. А хіба можа работа ісці спорна, калі пачаць яе са страхам, думаючы пра благое? Пра добрае трэба думаць! — дадаў стары.

Падзякавалі яму браты і пайшлі ўсе разам будаваць дом.

# Не дачакаўся прызнання

(заканчэнне; пачатак у 28 нумары)

**Ганна Кандрацюк:** Ян Тарасевіч прысвяціў Ежы Максымюку некалькі сваіх твораў. Існуюць таксама музычныя запісы творчасці Тарасевіча ў выкананні Максымюка. Гэтыя факты сведчаць пра блізкія і сардэчныя сувязі паміж маэстра і яго вучнем.

**Анатоль Чарапінскі:** А галоўнае, прафесар не дазволіў, каб талент Максымюка змарнаваўся. Дапамагаў яму пераадольваць самыя складаныя справы. Між іншым, *выкрунуў* яго ад Службы Польшчы, бо ведаў, чым закончыцца для піяніста некалькі месяцаў капання равоў. Іншым разам дапамог Максымюку атрымаць атэстат сталасці, бо ў час экзаменаў той пайшоў сабе на рэчку пакупацца. Пасля прафесар хадзіў некалькі разоў у школу, скандаліў і, праўда, згадзіліся правесці дадатковыя экзамены. А трэцяя рэч: наладзіў яму выхад у Варшаву. Бо школа Максымюком не цікавілася: закончыў дык і далей можаш да нас прыходзіць іграць, — казалі. А Тарасевіч паехаў у Варшаву і праз нейкі час Максымюк стаў студэнтам Кансерваторыі.

***— Ці меў там Ян Тарасевіч знаёмых выкладчыкаў?***

— Не. Прафесар меў незвычайны дар пераконвання людзей. Для яго не было невырашальнай справы.

***— За свае асабістыя справы ён не ўмеў змагацца. Хіба не цана гэта за дапамогу іншым?***

— А ў пасляваенным Беластоку не было людзей, якія дзеля мастацтва папулярызавалі б яго талент. Сам прафесар не шукаў сабе славы. І нягледзячы на жорсткасць лёсу, выгнанні, быў чалавекам незалежным. Быў чалавекам ад душы шчырым. Аднойчы расказваў як яшчэ ў Шындзелі здарылася такая гісторыя. Пагарэў мужык. А якраз зіма была. Тарасевіч даў пагарэльцу сані. Пазней у вёсцы абдараванага мужыка дапытваліся: *Скажы, што ты таму панічу зрабіў, што такія сані дастаў?*

— *Нічога,* — бажыўся пагарэлец.

— *Ой, ты напэўна нешта яму добрае зрабіў?*

— *Ейбогу — нічога, нічагусенькі!*

— *Дык чаму ён табе сані даў?* — усё ж не верылі вяскоўцы.

— *Бо дурны хіба?*



*Анатоль Чарапінскі.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

***— Ці Тарасевіч меў уплыў на Ваша жыццё?***

— Для мяне ён быў як бацька. Многа ведаў пра свет, умеў займальна расказваць. Я, несумненна, шмат узяў з яго падыходу да жыцця. Прафесар гаварыў, што ў жыцці трэба змагацца за вольную прафесію. Мой выбар медыцыны і гісторыі мастацтва здзейсніўся пад яго добрым уплывам.

***— Ці ў пасляваенным Беластоку Тарасевіч меў многа вучняў?***

— Многа дзяцей і моладзі прыходзіла іграць у яго хату. Апрача Максымюка ў Варшаве ёсць яшчэ адна яго вучаніца, Казакевічанка.

***— Ці Вам пашчасціла пабываць на канцэртах Яна Тарасевіча?***

— Два разы. Трэці раз быў у радыёвяшчанні, калі ён і Вітальд Кулікоўскі ігралі канцэрт Мендэльсона. Дарэчы, я ведаў прафесара ў часы, калі ён пачаў траціць тэхніку. Але трэба сказаць, што быў ён класным піяністам. Ён не быў горшы ад Горовіца. Вельмі дбайны ў дэталях, кожная нота была ў яго прадумана, найдрабнейшая інтанацыя выказвала свой сэнс. Памятаю, як аднойчы прыехаў з Варшавы Максымюк (ён пачаткова вучыўся ігры на фартэпіяна) і пахваліўся ўдалымі экзаменамі. — *То і нам зайграй,* — сказаў яму прафесар. — *Пабачым, чаго там цябе навучылі!* Максымюк ахвотна прысеў за раяль і пачаў выконваць твор Ліста. Мне здавалася, што ён вельмі добра іграе. Але прафесар схапіўся за галаву: — *Што ты зрабіў з гэтым творам!* — жахнуўся. Сеў ля Максымюка і пачаў яму пaясняць, паказваць, тлумачыць дэталі.

Так, Тарасевіч быў піяністам найзнакамітым. Па сённяшні дзень я не сустрэў такога выканання.

***— З кім Тарасевіч сябраваў у Беластоку?***

— Быў адзінокі.

***— Ці падтрымоўваў сувязі з беларускім асяроддзем?***

— Не. Хаця ведаю, што прыходзілі да яго актывісты з Беларускага таварыства і прапанавалі супрацоўніцтва.

***— А ці падтрымоўваў кантакты з музычным асяроддзем па-за Беластокам?***

— Свае творы пасылаў у Маскву пані Кузняцовай, якая старалася зацікавіць яго творчасцю музычнае асяроддзе Масквы. Нічога не атрымалася, хаця з Масквы прафесару прыслалі добрыя рэцэнзіі. Проста, ён кампанаваў у XIX-вечнай традыцыі, а ў 50-я гады XX стагоддзя была мода на іншую музыку.

***— Які найбольш плённы перыяд жыцця ў творчасці Яна Тарасевіча?***

— Найбольш кампанаваў пасля апошняй вайны. Пісаў таксама пасля інсульту, калі не мог ужо сам іграць.

***— У Менск Вы перадалі вельмі багатую спадчыну, 111 твораў. Сярод іх апынуліся шматлікія фартэпіянныя п'есы: „Дзіцячы альбом", дзве сюіты, „Вялікі вальс — саната", цыкл прэлюдый, мазуркі, эцюды, полькі, „Тарантэля", харавыя творы, рамансы на вершы беларускіх і рускіх паэтаў, камерныя творы для струнных інструментаў, ансамблі.***

— Ёсць, напрыклад, твор прысвечаны жыхарам Саколкі, г.зв. „Вальс банальны". Надзвычай прыгожы вальс!

***— Ці ўсю спадчыну Вы перадалі ў Менск?***

— Апрача адной кампазіцыі, апошняга фартэпіяннага канцэрта. Справа ў тым, што Тарасевіч не паспеў яго закончыць. Былі напісаны дзве часткі і трэба было дапісаць заканчэнне. І Максымюк узяў канцэрт, каб закончыць. І той твор прапаў. Калі я звярнуўся да Максымюка і папрасіў аддаць канцэрт, той адказаў, што не памятае такой кампазіцыі.



*Ежы Максымюк.*

***— Раскажыце пра апошнія гады жыцця маэстра.***

— Прафесар заўсёды хацеў памерці летам. І так яно сталася. Памёр ноччу 17 чэрвеня 1961 года. Апошнія гады ягонага жыцця не былі лёгкімі. Дзесяць гадоў перад смерцю здарыўся яму інсульт. Тарасевічу пачаў мяняцца характар, траціў тэхніку, у канцы зусім не мог сам іграць. Чакаў Максымюка, калі той прыедзе з Варшавы і зайграе запісаныя творы.

***— Раней Вы гаварылі, што недаконачаныя кампазіцыі мучылі і праследавалі Тарасевіча. Маю на думцы апошні незакончаны фартэпіянны канцэрт.***

— Маю многа жалю да Ежы Максымюка. Бо і ён мог бы нешта зрабіць дзеля Яна Тарасевіча.

**Гутарыла Ганна Кандрацюк**

# Нашы карані

**CXXIV. З'яднанне любоўю**

Старанні ўладыкі Іосіфа Сямашкі пра ўз'яднанне уніятаў з Праваслаўнай Царквой былі разважлівыя і настойлівыя. І навокал яго гуртавалася ўсё больш паплечнікаў і прыхільнікаў гэтай велічнай справы. За ўз'яднаннем была абсалютная большасць уніятаў, асабліва просты народ. І ўсё ж не ўсе падтрымлівалі высілкі біскупа Іосіфа. Яго дзейнасць сустрэлі вельмі варожа мніхі-базыльяне, спаланізаваныя беларускія і ўкраінскія магнаты, шляхта, мяшчанства, частка уніяцкага духавенства. Яны хапаліся рознага, каб толькі паўстрымаць агульнае імкненне уніятаў да з'яднання з праваслаўнымі: падбухторвалі цёмны натоўп да выступленняў супраць аб'яднання, засыпалі розныя ўстановы паклёпніцкімі даносамі знеслаўляючымі прыхільных з'яднанню уніяцкіх духоўных, дамагаліся ад царскага ўрада пазбаўлення кафедраў тых уніяцкіх біскупаў, якія былі прыхільнікамі еднасці з Праваслаўем і гэтак далей. Значыць, рабілі тое самае, што іхнія продкі 250 гадоў таму назад, заганяючы праваслаўных ва унію. Але часы былі ўжо іншыя і іхнія намаганні не атрымалі падтрымкі ні ў народзе, ні ва ўладах.

З усяго было відаць, што справы выразна даспелі да канчатковага вырашэння. Таму 12 лютага 1839 года ў Нядзелю Трыумфу Праваслаўя сабраліся ў Полацку уніяцкія біскупы Іосіф Сямашка, Антоній Зубко, Васіль Лужынскі, прадстаўнікі ніжэйшага духавенства, свецкай уніяцкай грамадскасці і ад імя ўсяго уніяцкага Касцёла, што быў у тадышняй Расійскай дзяржаве, вырашылі звярнуцца да Святога Сінода Праваслаўнай Царквы і імператара Расійскай дзяржавы, каб уніятаў прынялі на ўлонне Праваслаўнай Царквы. У аднагалосна прынятай пастанове было выказана жаданне „з гэтага моманту ўсе разам з даручанымі нам веруючымі, у аднамыснасці са святымі ўсходнімі праваслаўнымі патрыярхамі і ў паслушэнстве Святому Усерасійскаму Правячаму Сіноду". Усе ўдзельнікі Полацкага сабору добраахвотна ўласнаручна падпісаліся пад дакументам. Праз месяц, 13 сакавіка, Святы Сінод пастанавіў: „Епіскапаў, духавенства і веруючых так званай да сёння грэцка-каталіцкай царквы, згодна са святымі правіламі і за прыкладам святых айцоў прыняць у поўнае адзінства з Праваслаўнай Царквой і непадзельную цэласнасць з Усерасійскай Царквою". 25 сакавіка 1839 года, у Чысты Чацвер, на дакуменце Сінода, у якім пра яго пастанову паведамлялася імператара, цар Мікалай I уласнаручна напісаў: „Дзякую Богу і прымаю". А на спецыяльна выбітым памятным залатым медалі было адчаканена: „Адарваныя насіллем (1596) з'яднаныя любоўю (1839)".

**Мікола Гайдук**

# Прыгоды на паліцы

Публічная бібліятэка ў Мілейчычах існуе звыш 50 гадоў. Доўгі час знаходзілася ў будынку мясцовай сінагогі. Сёння мае 13 тысяч кніг і 200 чытачоў з Мілейчыч, Харашчэва, Паканева, Рагачоў, Сабятына і Валкаў.

У мінулым годзе мілейчыцкая Гмінная публічная бібліятэка купіла 136 новых тамоў і сёлета — 111. Найбольш мастацкай літаратуры.

Сярод дзяцей і моладзі найбольш чытаюць: Ева Юхімовіч, Каміля Кірэйчук, Моніка Арол і Павел Наказнік. Сярод дарослых да найлепшых чытачоў належаць, між іншым, Леанід Семянюк, Галіна Сальшка, Анна Зарэмба і Казімір Мёдушэўскі. **(гай)**

# Неабходная мэбля



— Асяродак узорнай мэблі і прыладаў для дзяцей-інвалідаў у Гайнаўцы ўзнік у 1991 годзе на аснове шматгадовага вопыту і працы праектантаў, удзельнікаў агульнапольскіх пленэраў мэблі, — кажа кіраўнік гэтага ж Асяродка Яніна Езерская. — Ужо апрацавалі мы шмат праектаў на індывідуальныя патрэбы, але выконваем таксама некаторую мэблю і прылады серыйна. Паказвалі гэта на многіх выстаўках у краіне і за яе межамі, між іншым, на Сіцыліі (у 1992 г.), у Равене (1993 г.), Берліне (1991 г.). Комплексная апрацоўка залы для тэрапіі ў 1993 годзе атрымала ўзнагароду Упаўнаважанага ўрада па пытаннях інвалідаў.

У Асяродку знаходзяцца памяшканні для выконвання праектаў, узораў, мадэляў і месца, дзе могуць затрымацца дзеці, для якіх індывідуальна выконваюць мэблю або прылады. Серыйныя прадукты трапляюць у асяродкі рэабілітацыі, школы, садкі і дамы сацыяльнай апекі.

— Пленэры, у час якіх мы рабілі праекты для дзяцей-калек, арганізуем ужо ад 1985 года, але наша творчае таварыства „Студыя ўзорных формаў" стварыла група мастакоў у 1991 годзе, — гаворыць Яніна Езерская. — Спачатку атрымалі дапамогу з Дзяржаўнага фонду інвалідаў і тады адрамантавалі будынак, у якім зараз знаходзімся. Цяпер самі фінансуем сваю дзейнасць. На першым месцы ставім дапамогу хвораму дзіцяці і праектуем, а пасля так выконваем мэблю і прылады, каб яны як найбольш памаглі, але адначасна і былі прыгажэйшымі за звычайныя.

Асяродак узорнай мэблі і прыладаў у Гайнаўцы — гэта адзіны гэтага тыпу асяродак у Польшчы, таму і запатрабаванне на яго вырабы вялікае. Хаця вядзецца супрацоўніцтва з дрэваапрацоўчым прадпрыемствам „Фурнэль" і некаторымі гайнаўскімі сталярамі, масавай вытворчасці не выконваецца. Уся мэбля і прылады драўляныя. У століках можна дапасоўваць вышыню, у крэслах можна перастаўляць заднюю апору і так яе дапасоўваць, каб ліквідаваць скрыўленні пазваночніка. Крэслы маюць таксама спецыяльныя падпоркі для рук і ног, якія можна дастасоўваць да росту дзіцяці і свабодна перастаўляць. Ёсць як і прышпіліць дзіця. З боку спецыяльныя прылады для тых, якія не бачаць, цацкі, на падставе якіх можна вучыцца пісаць.

— Летам арганізуем у Асяродку для дзяцей, студэнтаў і дарослых мастацкія пленэры, на якія прыязджаюць удзельнікі з іншых краін. Праекты выконваем круглы год, але выкарыстоўваем і праекты з пленэраў, — працягвае Яніна Езерская. — Прафесіянальныя веды мы засвойвалі ў час розных курсаў, сустрэч з лекарамі, рэабілітантамі, псіхолагамі, педагогамі і бацькамі. Супрацоўнічаем з Асяродкам рэабілітацыі ў Канстанціне, Асяродкам для невідучых дзяцей, што ў Лясках каля Варшавы і іншымі. У інвалідаў такія ж патрэбы, як у нас. Мы хочам, каб гэтыя асобы адчувалі сябе не горшымі ў нашым грамадстве. Калі дзіця народзіцца з нейкім недамаганнем, тады найважнейшая справа, каб яно правільна развівалася, як найбольш практыкавалася. Заўсёды ёсць шанц, што недамаганне паменшае. Дзеля гэтага наша мэбля і прылады. У мінулым годзе арганізавалі мы пленэр „Прастора вакол дзіцяці, якое не бачыць". Аказваецца, што вельмі мала ёсць прыладаў для гэтых дзяцей. Самая важная праца з найменшымі, таму і ўсе праекты былі для дашкольнікаў. Напрыклад, Івона Баравік праектавала камплект для практыкаванняў, звязаных з раўнавагай, уяўленнем прасторы, азнаямленнем з кругам, прамавугольнікам, трохвугольнікам „Гэро" (глядзіце здымак). Я праектавала ігру ў дом і магазін „Блізняты", падчас якой невідучыя дзеці таксама змогуць уявіць прастору вакол сябе. У гэтым годзе XXIII Агульнапольскі пленэр мэблі „Гайнаўка '98" арганізуем у жніўні, а выстаўку — ад першага да дзесятага верасня. У верасні плануем таксама наладзіць пленэр для студэнтаў мастацкіх школ і многа іншых сустрэч. Заказваць мэблю і прылады бацькі могуць цэлы год. Ужо традыцыйна заказы для дзяцей з Гайнаўкі рэалізуем бясплатна.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

Адгалоскі

# Па-якому ў царкве правяць?

У „Ніве" (н-р 20 ад 17 мая 1998 г., с. 3) чытаем: „Вы думаеце такі ксёндз па-руску не ўмее? Або бацюшка, у тэлевізары па-польску выступае, а ў царкве па-руску правіць". Дык хачу вось удакладніць, што ў ніводнай краіне на свеце не правяць па-руску, нат у самой Расіі. Была там такая проба ў так званай „жывой царкве", але правалілася. Перш за ўсё разбярэмся ў тым, якімі літарамі надрукаваны свяшчэнныя кнігі ў польскай Праваслаўнай царкве. У іх мы бачым кірыліцу. Яе зусім не прыдумаў святы Кірыл (ён аўтар глаголіцы), а толькі вучні святога Мяфодзія, выгнаныя з Вялікага княства Мараўскага ў Македонію. Гэты прыгожы алфавіт фактычна з'яўляецца грэчаскім з дададзенымі літарамі з яўрэйскай і копцкай моў. Глагалічны алфавіт, мауляў, узнік на ўзор грэчаскага курсіву. Найдаўжэй ён пратрымаўся ў свяшчэнных кнігах на югаслаўскіх берагах.

Аб самой мове і яе класіфікацыі, г.зн. месцы сярод іншых славянскіх моў, трэба сказаць, што сёння ўжываецца не старажытна- а новацаркоўнаславянская мова або старaславянская мова ў рускай або новабалгарскай рэдакцыі. У абедзвюх прапалі юсы малыя і вялікія (г.зн. літары і гукі *эн, он, йэн, йон* — насавыя), якія вымаўляюцца а, у, йа, йу. У Маскве *е* вымаўляецца як *йе*, а ў Балгарыі як *э*. У Расіі ў цэрквах *щ* вымаўляюць як *шч*, а ў Балгарыі як *шт*. Амаль усе ў Польшчы даюць сваю галаву на плаху за тое, што царкоўнаславянская мова — быццам старaруская мова, але гэта не так. Славянскія мовы дзеляцца на тры групы: заходне-, паўднёва- і ўсходнеславянскую. Царкоўнаславянская мова належыць не да ўсходняй а паўднёвай групы. Значыцца, яна не руская (не „кацапская"). Дарэчы, праславянская рэканструяваная мова — гэта іншая справа. У часы Хрыста ёю гаварылі ўсе славяне, якія памяшчаліся амаль на тэрыторыі сённяшняй Польшчы і тады, на поўдзень ад Карпатаў, на ўсход ад ракі Случ і на поўнач ад Прыпяці і ніжняга Буга не было ніводнага славяніна. На тэрыторыі цяперашняй Беларусі жылі балцкія плямёны. Пару тысяч гадоў таму была супольная балта-славянская мова, а яшчэ раней — праіндаеўрапейская.

Вывад: калі не хочаце рабіць з сябе пасмешышча, не гаварыце, што ў царкве правяць па-руску, а кажыце: па-старабалгарску, бо такая ёсць праўда.

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

**Ад аўтара:** У рэпартажы „У Падазеранах няма надзеі" думаюць і філасофствуюць героі. Прыводжу таксама іх, а не свае, выказванні, за якімі стаяць канкрэтныя людзі і прозвішчы. Такія прынцыпы рэпартажу.

Разумею, што апошнія словы адгалоскі кіруеце ў адрас тых, што не разумеюць філалагічных тонкасцей мовы.

З пашанай

**Ганна Кандрацюк**

# Аб сацыяльнай апецы

**Многія людзі і іх сем'і апынуліся ў складаным матэрыяльным становішчы і часта не ведаць, да каго звярнуцца за дапамогай альбо баяцца, што будуць на іх глядзець як на няпрошаных гасцей. Аб сацыяльным забеспячэнні маламаёмных грамадзян распытаў я Казімежа КУЧКО — намесніка дырэктара Гарадскога асяродка сацыяльнай дапамогі ў Беластоку.**

***— Хто мае права карыстацца сацыяльнай дапамогай?***

— Каб стаць нашым падапечным, трэба адпавядаць двум крытэрыям. Папершае: нізкі даход — меншы за 333 злотых для адзінокіх асоб, а ў сям'і — менш чым 302 зл. на першую асобу і 213 — на чарговага сямейніка, якому споўнілася 15 гадоў, і 152 зл. на дзяцей да 15 года жыцця. Усе даходы дадаюцца і дзеляцца на колькасць членаў сям'і і калі атрыманыя паказчыкі будуць ніжэйшыя за згаданыя сумы, можна пачаць хадайнічаць аб атрыманні дапамогі. Другая ўмова — прычына хадайніцтва. Закон аб сацыяльным забеспячэнні прадугледжвае пад два дзесяткі сітуацый, калі можна патрабоўваць выдзеліць грашовую і матэрыяльную дапамогу. Самымі частымі прычынамі бываюць беспрацоўе, працяглая хвароба, неабходнасць аховы мацярынства, бяздарнасць, алкагалізм, стыхійныя і экалагічныя бедствы.

***— А якія бываюць формы сацыяльнай дапамогі?***

— Наш асяродак распараджаецца цэлай гамай дапамогі ў залежнасці ад індывідуальных патрэб паасобных людзей. Выдзяляем часовыя дапамогі цяжарным жанчынам (ад 8 месяца цяжарнасці да 2 месяца пасля родаў), асобам, якія страцілі права на дапамогу па беспрацоўі або адзінока выхоўваюць дзяцей, людзям, якія пакутуюць ад працяглай хваробы або чакаюць рашэння аб прысваенні ім права на пенсію. Даем таксама мэтавую дапамогу, напрыклад, аплачваем абеды для дзяцей у школьных сталовых, а для дарослых — у багадзельні па вуліцы Навагрудскай. Асобам, якія грошы могуць прамантачыць, выдаем талоны. Іх можна атаварыць у вызначаных магазінах. Апрача таго раздаем маламаёмным харчы, вопратку, апал, прадметы хатняга ўжытку.

Каб атрымаць дапамогу, трэба скантактавацца з сацыяльным работнікам у сваёй амбулаторыі ці сваім асяродку здароўя або падаць заяву ў гміннную адміністрацыю. Справы аб выдзяленні дапамогі афармляюцца на працягу двух тыдняў — месяца.

***— Ці інфармацыя аб магчымасці атрымання дапамогі даходзіць да патрабуючых?***

— Так, такая інфармацыя даволі хутка разыходзіцца сярод маламаёмных. Толькі некаторыя саромяцца прыходзіць да нас. Для такіх людзей сацыяльная дапамога — гэта крайнасць.

***— Ці прасіцелі не скардзяцца на нядобрасумленнасць сацыяльных работнікаў у гмінах?***

— Скаргі, абгрунтаваныя і неабгрунтаваныя, бываюць заўсёды. Высвятленнем такіх сітуацый займаецца ў нас ваяводская кантрольная ячэйка. Калі за дапамогай звяртаецца сям'я сацыяльнага работніка, тады справай займаецца іншы асяродак. Грошы ўсе асяродкі атрымоўваюць з дзяржаўнага бюджэту, але могуць быць таксама і свае крыніцы фінансавання гуманітарнай дапамогі.

***— Дзякую за размову.***

**Міхал Мінцэвіч**

Апанас Цыхун

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)

Частка X

Асабліва зжыўся я, пасябраваў з начным вартаўніком Андрэем Кашкам, які раней, калі быў маладым, пасвіў у Кунцаўшчыне кароў, а пасля занямог і стаў начным вартаўніком, старажам. Стаў вартаваць маёмасць кунцашчан. Ні адзін раз дзед Андрэй Кашка выратаваў Кунцаўшчыну ад пажару. Знаў ён кожную хату, кожны хлевушок, свіран. Дасканала ведаў яе жыхароў. Да сваіх абавязкаў адносіўся сумленна. У сваім жыцці ні разу не хварэў, а пражыў ён нямала, праз восьмы дзесятак пераваліла. Быў ён моцнага складу, прысадзісты, шыракаплечы. Зімой, ідучы на варту, апранаў доўгую бурку з мікалаеўскім башлыком. На ногі надзяваў чосанкі з галошамі, на галаву — шапку-вушанку, якую сам сабе пашыў з воўчай шкуры. Ніякія маразы, ні мяцеліцы не страшылі дзеда Андрэя Кашку. Добра апрануты і абуты, з берастовым кіём у руцэ, дзед Андрэй Кашка важна крочыў па мастовай вёскі Кунцаўшчыны з аднаго канца ў другі. Ён уважліва прыслухоўваўся да ўсяго ў наваколлі: як спяць людзі ў хатах, як паводзіць сябе ў хлявах жывёла. Добра ведаў, калі і ў які дзень ці ноч, і ў якога гаспадара будзе жарабіцца кабыла ці цяліцца карова. Дзедавы вушы лавілі кожны нязначны шорах, кожны стук у хлявах. Ідучы праз Кунцаўшчыну ён часта здымаў кішэнны ліхтарык, які заўсёды вісеў на гузіку яго буркі, націскаў пальцам на кнопачку і белы, як малако, сноп электрычнага святла пранізваў цемень ночы, асвятляючы шырокі, вусаты дзедаў твар. Невялічкія, жывыя яго вочы ўпіваліся ў цемрадзь і бачылі ўсё.

Ні адзін раз дзед Андрэй Кашка з кіём у руцэ адганяў ад Кунцаўшчыны ваўкоў. Аднойчы з сабакамі дагнаў аж за вёскай нават старога ваўка, які, трымаючы зубамі за вуха паршука і падганяючы яго сваім хвастом, дабіраўся да густога ельніку. І якая ж радасць была, калі Буднікаў Міхалка свайго паршука, хаця і пакусанага, убачыў на падворку!

— Во, гэта вартаўнік! Мінуліся тыя рачкі, што выпіралі ваўкам бачкі. Вось гэта вартаўнік! — казалі аднавяскоўцы...

У час начной варты дзед Андрэй Кашка асаблівую ўвагу звяртаў на ахову хатніх птушак. Паважаў качак, курэй, а найбольш гусей, за тое, што яны яму дапамагалі вартаваць, захоўваць сялянскую маёмасць.

— Ого! Гусі ніколі не падвядуць. Вельмі ж чуткія. Ні адзін злодзей прагарэў ад іх, не зрабіў сваёй чорнай справы... Гусі нават Рым спаслі, — часта казаў дзед.

Любіў дзед Андрэй Кашка пеўнікаў. Яны былі падчас варты яго самымі блізкімі сябрамі. Пеўнікі сваім звонкім, гарластым „ку-ка-рэ-ку-у-у!..” адганялі ад дзеда настырлівую стому, сон. Замянялі гадзіннік. Пеўнікаў дзед Андрэй браў пад асабісты кантроль, ахову. Стараўся не дапусціць, каб ім пагражала якая-небудзь небяспека.

З хатніх птушак не цярпеў ён індыкоў. — Фэ, якое гадкае стварэнне. Глядзець няма на што. Балбочуць абы што, — казаў дзед Андрэй, калі даводзілася з імі сустракацца.

У час начной варты не здарылася, каб ён хоць на хвілінку задрамаў. Дзед Андрэй прыслухоўваўся да ўсяго ў начной цішыні. Яму ні адзін раз даводзілася назіраць ноччу за небам. Любіў ён углядацца ў бязмежныя прасторы сусвету, з яго незлічонымі блізкімі і далёкімі свяцціламі. Ведаў амаль усе вялікія і малыя сузор’і, толькі называў іх пасвойму: „Вунь Вялікая, а вунь Малая Мядзведзіцы. Там відаць — Стражы, збоку — Коўшык, а там — Пояс, а за ім, угары Сіцячко...” Стоячы на мастовай Кунцаўшчыны, дзед Андрэй Кашка за ноч некалькі разоў пералічваў на небе сузор’і. І як толькі на ўсходзе паказвалася самотная зорка „Утраніца”, канчаў ён сваю начную варту і амаль кожны раз заглядаў да нас у хату. Зімой у час маразоў я нанач не зачыняў дзверы хаты на засаўку, каб ён мог, калі захоча, прыйсці ў хату пагрэцца. Наогул, калі мы дзе-небудзь ад’язджалі, дзед Андрэй быў у нас за гаспадара. Пільнаваў хату, даглядаў нашага сына Геніка, будучага беларускага мовазнаўцу, доктара філалагічных навук, старшага навуковага супрацоўніка Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.

У вольны час дзед Андрэй Кашка любіў парыбачыць. Прыходзіў да мяне, я браў волак (сачок) і мы накіроўваліся да рэчкі Лашанкі. Рэчку я перагароджваў волакам, а ён, б’ючы кійком па вадзе і крычучы наганяў рыбу ў волак. У той час у рэчцы было шмат рознай рыбы: рагатак, гаркушак, кручкоў, свігаў. Калі яны ў волак пападаліся, мы іх не бралі, кідалі ізноў у рэчку. Найбольш траляліся ў волак келбы, плоткі, яльцы, акуні, слізкы, шчупакі, а часамі і вангоры. Так што за кароткі час мы вярталіся з добрым уловам рыбы. Нас ужо чакала мая жонка Марыя Аляксееўна. Настрой у мяне і ў дзеда Андрэя Кашкі быў заўсёды добры. Мы браліся за справу, сядалі і чысцілі рыбу. Асабліва з гэтай работай вельмі добра спраўляўся дзед Андрэй, а каля яго завіхалася і кошка Мурка. Затым рыбу смажыла Марыя Аляксееўна. Падсмажаную рыбу ставіла ў вялікай місцы на стол. Сама сядала, дзед Андрэй даставаў з кішэні свайго капітана чвэртку „Выбаровай” гарэлкі, якую мы, не спяшаючыся, апаражнялі, закусваючы свежай смажанай рыбай...

*(працяг будзе)*

# Акалечаны вайной

**(апавяданні з маёй маладосці)**

У маленстве пачаў я цікавіцца чаму мой татка кульгае, што сталася з яго правай нагою. Доўга я не знаходзіў адказаў на гэтыя пытанні. І вось аднойчы, у зімовы марозны вечар, калі бацька адпачываў у хаце пасля працы, якой заўсёды было ўдосталь, пачуў я ад яго цікавую і сумную гісторыю.

1 жніўня 1914 года Германія аб’явіла вайну Расіі. Бацька, які знаходзіўся ў рускай арміі, апынуўся на фронце. Вайна зацягвалася. Планы германскага камандавання на хуткую перамогу не здзейсніліся. У 1915 годзе фронт знаходзіўся ў Літве, дзе бацька трапіў у нямецкі палон. Там, у тыле ворага, ваеннапалонныя пад наглядам нямецкіх салдат займаліся зарубкай лесу. Бацьку з сябрам, родам таксама з Беласточчыны, удалося ўцячы. Пакуль ён дабраўся дахаты, зваліліся з ног вайсковыя боты і ўжо пры першых замаразках пераступіў парог роднай хаты босымі нагамі. Калі ўжо крыху акрыяў пасля ўцёкаў, на панадворку ўгледзеў яго сусед, солтыс, і данёс немцам. Неўзабаве паявілася двух паліцаяў. Бацьку нейк удалося перабегчы ў клуню і закапацца ў салому. Спалоханая мая бабуля зачынілася ў каморы. Паліцаі, спадзеючыся, што яна там разам з сынам, вырубалі дзверы ў камору. Так страшэнна пабілі бедную бабулю прыкладамі, што праз два дні яна памерла. Немцы ўсё шукалі майго бацькі. Калі не знайшлі яго ў хаце і хлявах — скіраваліся ў клуню. Не знайшоўшы, пачалі страляць у салому на вышках. Адна з куляў трапіла бацьку ў ступак правай нагі. Заціснуўшы з болю зубы, ён надалей нерухома сядзеў у саломе.

Немцы ад’ехалі. Бацька доўга лячыў нагу. Каб ізноў па яго не прыехалі, ён пехатою адправіўся аж у Кіева-Пячэрскую лаўру, дзе ў манастыры манахам быў яго дзядзька. Бацька памагаў манахам у гаспадарчых працах. У манастыры дачакаўся заканчэння вайны. Тады толькі адправіўся назад дахаты. У дарозе затрымалі яго бальшавікі.

— А ты кто такой? Буржуй или шпион? — грозна азваўся адзін з чырвонаармейцаў. Умяшаўся тут аднак у размову камандзір чырвонаармейскага атрада.

— Ты, товарищ, посмотри только на его натруженые руки, они ведь в сплошных мозолях. Таких рук не имеют буржуи.

Бацька расказаў, што ён ідзе з Кіева-Пячэрскай лаўры, хоча дабрацца дахаты, і яго адпусцілі. Доўга давялося яму вандраваць да роднага дому. На прастрэленым ступаку пачалі нарастаць нейкія храсткі, нага распухла і страшэнна балела. Фельчар Куптэль з Орлі прыпісваў бацьку нейкія вадкасці, якія няшмат памагалі.

За савецкай улады на Беласточчыне бацька зусім акульгавеў. Каб усё-такі штосьці рабіць у гаспадарцы, змайстраваў ён сабе драўляны пратэз пад калена. А тут якраз сілком заганялі ў калгас. Прыехаў з Орлі камісар Лейкін.

— Ты закрутил, завертел свою ногу и думаешь, что нас обманешь?

Калі Лейкін на падставе лекарскага пасведчання пераканаўся, што мой бацька сапраўды хворы, ён адазваўся:

— Твое счастье. Если бы ты не был хромой, тебя обязательно мы направили б на белые медведи.

І так мой бацька не стаў калгаснікам. Аднак потым, нягледзячы на яго хваробу, польская народная ўлада ўвагнала бацьку ў прадукцыйную спулдзельню да часу, пакуль яе не ліквідаваў Гамулка.

Лекары паставілі бацьку на ногі настолькі, што адкінуў ён драўляны самаробны пратэз.

Мой бацька вельмі цяжка працаваў на гаспадарцы. Цаніў ён вельмі навуку, удалося яму закончыць фельчарскую школу ў царскай арміі. Намагаўся, каб і я мог вучыцца. Кульгаў ён да смерці, падпіраючыся кіёчкам. Няхай табе, дарагі татулька, спакойна спіцца пасля беспрасветнага жыцця на роднай зямельцы.

**Віктар ШВЕД**

# „Наша ніва” і ўсходняя Беласточчына

**Частка 22**

У першым нумары „Нашай нівы” за 1908 год быў апублікаваны ліст у рэдакцыю, падпісаны Вучыцелем з Гродзеншчыны. Са зместу ліста нельга было даведацца, ці яго аўтар паходзіў з усходняй Беласточчыны, ці, быць можа, з іншага рэгіёна тагачаснай Гродзенскай губерні. Аднак тэматыка ліста не толькі падыходзіла поўнасцю да ўсходнебеластоцкіх беларусаў у мінулым, але таксама ў сённяшнім. Публікацыя датычыла слабасцей беларускага нацыянальнага духу — праяваў рэнегацтва, абыякавых адносін да нацыянальнага гонару. У 15 нумары „Нашай нівы” ад 9 (22) красавіка 1909 г. паявіўся зноў ліст у рэдакцыю, падпісаны Вучыцелем з Гродзеншчыны. У сувязі з тым, што многія яго тэзы не страцілі актуальнасці да сённяшня, варта прывесці абшырныя фрагменты гэтай цікавай публікацыі.

„Беларусы, як і кожны народ, найхутчэй зробіцца культурнымі, калі яны будуць даставаць культуру ў роднай мове. Родная мова — гэта найкаротшая дарога да культурнасці. Што гэта так, разумее ўсякі, хто не прадае свой розум за грошы. Не разумее гэтага той, хто ўсім сваім жыццём прывучаны не разумець гэтага, хто сам добра гаворыць па-руску ці па-польску, дый яму здаецца, што ніякай беларускай мовы няма на свеце, а што ёсць друкаваныя кніжкі па-беларуску, дык гэтая мова выдумана! „Істінно-рускія людзі” крычаць, быццам яе выдумалі, каб ад іх адбіць праваслаўных беларусаў і прылучыць да палякаў; нават лгуць, што „Наша ніва” друкуецца па-польску. Ізноў „істінно-польскія” гамоняць, што гэта ад іх адбіваюць беларусаў-католікаў. І гэты крык гаворыць нашаму сэрцу многа: ён нас падтрымоўвае ў рабоце над з’яднаннем усіх беларусаў процiў усіх няпрошаных „апекуноў” у рабоце над развіццём культуры ў беларускай мове, бо той свет свеціць найясней, каторы даходзіць да народу ў роднай мове яго.

Усякі культурны народ дайшоў сваё культуры ў сваёй роднай мове, — другой дарогі да культуры няма і быць не можа. А беларусу розныя няпрошаныя „апекуны” стараюцца зрабіць гэту дарогу! Ці-ж вінаваты беларус, што ён забывае мову бацькоў сваіх, як пяройдзе розныя там клясы і „выйдзе ў людзі?” Не, ён не вінен, бо ён не мог вучыцца ў роднай мове, ён яе чуў толькі ў сяле ад мужыкоў... Вінаваты тыя, каторыя заўсягды перашкаджалі яму вучыцца ў роднай мове, каторыя і цяпер клапоцяцца прысыпіць беларускае самапачуцце... Да іх я і скажу гэтыя словы: „каб таму было цяжка дыхаць”. **Вучыцель з Гродзеншчыны.** 29-ІІІ-1909 год”.

Ад моманту напісання гэтых слоў прамінула амаль дзевяноста гадоў. І што на працягу гэтага вельмі доўгага перыяду змянілася? Змянілася многае. Сёння ніхто не перашкаджае вывучаць беларускую мову ў школе, аднак самі беларусы не вельмі карыстаюцца такой магчымасцю. У шасцідзесятыя гады ў Польшчы беларуская мова выкладалася ў больш чым 150 пачатковых школах усходняй Беласточчыны. Каля 100 школ было чыста беларускіх. А сёння няма ніводнай школы, у якой усе прадметы выкладаліся б па-беларуску, а школ, у якіх выступае беларуская мова як прадмет, намнога менш чым пяцьдзесят.

А што датычыцца Беларусі, дык там маем дачыненне з сапраўднай драмай. Гэта адзіная краіна ў Еўропе, у якой нацыянальная мова не выкладаецца як абавязковы прадмет.

Прэзідэнт Лукашэнка, да якога так ахвотна бегаюць у госці і за падаркамі некаторыя беларусы з усходняй Беласточчыны, давёў да таго, што з 75 працэнтаў беларускіх дзяцей, агорнутых навучаннем беларускай мовы ў 1994 годзе, сёння вывучае каля 30 працэнтаў. Такіх тэмпаў русіфікацыі не было нават пры Сталіне.

Калі б сёння ўваскрос Вучыцель з Гродзеншчыны, напэўна быў бы ўзбуджаны тым, што беларусы аж так моцна змарнавалі 90 дадзеных ім гісторыяй гадоў.

**Алесь Барскі**

# Мая ацэнка

Па „Сэрцайку" я плакаць не буду, барані Божа! Ад самога пачатку існавання я лічыў яго пустатою, дурноццем і спакусаю; гэта была газетная вулічніца і ад яе ніхто дабрыні і маральнасці не навучыўся. Яшчэ горш: „Ніву" пачалі называць бульварнай газетай, і то, найбольш, з ласкі згаданай рубрыкі. Гэтыя мае высновы маюць падставы, бо я 33 гады выпісваю і прадаю „Ніву" і сярод пісьманосцаў я быў і астаюся рэкардсменам у гэтай галіне. І хаця сярод чытачоў, пераважна старой даты, трапляюцца адзінкі, якія сумуюць па „Сэрцайку", але іх пачуцці скора рассеюцца як вецер, таму што пустата хутка забываецца.

Таксама і па „Парнасіку" плакаць не буду, барані Божа! Хаця не будзе каму хваліць нашых дзелавікоў. А сколькі я іх выхваліў — не пералічыць! А гэта была мая вялікая памылка, бо кожны з іх, апрача Цёткі Мальвіны, эгаіст і самахвал і лічыць сябе вышэй ад кагосьці. Яны жадаюць і чакаюць зорак з неба і пахвалы ад самога папы рымскага. За мае пахвалы, якія плылі ад сэрца, некаторыя з іх мне свінню падлажылі. Нездарма гавораць: як пан з пана — валоў аддасць, а калі пан з мужыка — валоў не аддасць. Адзін „маленькі чалавек" за маю пахвалу ў сваіх фрашках мяне абразіў. І нездарма гавораць: не хвалі надвор'я зранку, а чалавека, калі яго блізка не ведаеш. Няхай „Ніву" ўзбагачаюць „высакародныя" „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка; добра, што дзівакі яшчэ не звяліся. Няхай новай экіпе „Нівы" сняцца рамантычныя сны, героем якіх з'яўляецца „хвалены за габарыты" Вандала Арлянскага. І канчаю парафразай слаўнага паэта: раджу вам, мае сябры, верна ўсе жывіце, а „Парнасік" не ёсць хлеб, можна і так пражыці.

**Мікалай Панфілюк**

# Наша пошта

**Уладзіслаў Рудзінскі, Вялікабрытанія:** „Я — чытач «Нівы» ад пачатку і да канца. Пакуль світа Лукашэнкі — русафілаў і Валэнсы — паланафілаў не замкнуць газету «Ніва» (а факты паказваюць, што гэта будзе ў хуткім часе), будзьце дабры са сваёй світай паланафілаў вярнуць назад у «Ніву» рубрыку «Сардэчныя тайны». Гэты артыкул не ёсць скандальны, а наадварот: жыццёвы, цікавы і карысны ў жыцці людзей беларускіх — старых і маладых. Мне цікава, каму гэта перашкаджала? Хіба толькі паланафілам, бо ім мала месца ў газеце на іх артыкулы, якія робяць паклёпы на беларускую нацыю, мову, кірылічны шрыфт і хочуць увесці лацінку".

**Юрка Буйнюк, Малінніки:** „Вельмі прашу вярнуць «Парнасік», «Мы прачыталі» і літаратурную старонку «Белавежа»".

**Ад рэдакцыі:** Ліквідуючы пяць пастаянных ніўскіх рубрык мы кіраваліся тым, што іх форма ўстарэлася, вычарпалася, а не нейкім паланафільствам, у чым абвінавачвае нас чытач з-за Ла-Манша. Хочам прытым падкрэсліць, што „Ніва" напэўна будзе выходзіць да канца гэтага года (у нас ёсць датацыя на ўвесь год), і верым у яе існаванне ў будучым, да гэтай пары, пакуль польскі ўрад будзе падтрымліваць культурную і выдавецкую дзейнасць нацыянальных меншасцей. Таксама закіды ў паклёпніцтве ніўскіх аўтараў на беларускую нацыю, мову і кірылічны шрыфт лічым абсурднымі, надуманымі.

Літаратурную старонку мы не ліквідавалі. З'яўляецца яна рэгулярна (у першым нумары кожнага месяца), толькі без шыльды літаб'яднання „Белавежа".

# У кожнага свая рацыя

Нядаўна сустрэўся я з пісьманосцам Уладкам В., які кажа:

— Сцягні ты з Беластока тэлебачанне. Няхай пакажуць зарослыя пустазеллем вуліцы Чаромхі. Гміна „шліфуе" толькі асноўную вуліцу, а на астатнія „ляпкі" кладзе... Дарогі не забяспечаны дарожнымі знакамі. Вось, напрыклад, гэты кусочак каля стаянкі аўтамабіляў. Неабходныя пасы для пераходу пешых. А іх тут няма. Працаўнік гміны, які адказвае за дарожныя справы, абяцаў намаляваць. Нават фарбу знайшоў. Ды дагэтуль Бог паспеху яму не даў выканаць гэту працу.

Справу прадставіў я войту гміны, а той кажа:

— Не без рацыі застаюцца словы В. У сапраўднасці мы не паспяваем абкасіць усе вуліцы на пасёлку, бо людзей і грошай нам не хапае.

Гэта тычыцца і чысціні вуліц у вёсках. Калісьці жыхары Кузавы і вёскі Чаромхі прасілі, каб асфальт палажыць, а парадак насупраць сядзібаў самі ўтрымаюць. А як справа маецца? Паставілі каля сваіх платоў калкі, каб каровы тудэма не хадзілі і не паскудзілі. Тыя вымушаны асфальтам хадзіць, і вядома, брудзяць. І ніхто не прыбірае каровіных „бліноў" насупраць сваіх сядзібаў, хоць закон забавязвае ўласнікаў трымаць чысціню... І як тут быць?

На мой сялянскі розум — у кожнага свая рацыя ў адной і той жа справе.

**(ус)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніцца мне, быццам я гляджу тэлевізар. Раптам чую, як дыктар гаворыць, што мяне асудзілі на некалькі гадоў турэмнага зняволення. Я спачатку думаў, што варункова. Але не, ды трэба заплаціць нейкі штраф, а да таго яшчэ некаму кампенсацыю, судовыя кошты ды яшчэ сімвалічную залатоўку.

Усё гэта дзеецца быццам за ўсходняй граніцай. Я слухаю, а жонка мне сваёй размовай перашкаджае. Я злосны. І... прачнуўся. Што можа прадвяшчаць гэты кашмарны сон?

**Сцяпан**

Мне, даражэнькі Астроне, прысніліся два вельмі падобныя сны (адзін, а праз тры дні — другі). Спачатку мяне цалаваў мой калега па працы, а я ведаю, што ён у адносінах да мяне няшчыры, а нават фальшывы.

У другім сне быццам я стаяла на аўтобусным прыпынку. Раптам, скуль ні вазьміся, паяўляецца мой знаёмы і пачынае мяне абнімаць. Наогул гэта мілы чалавек і ўмее быць добрым сябрам, але перш за ўсё гэта п'яніца. Што ж гэта за сны такія, Астроне?

**Ганна**

Сцяпане! Ты лепш падзякуй сваёй жонцы, што табе перашкаджала слухаць перадачу, бо быў бы ты не прачнуўся і не вызваліўся ад такога кашмару.

Хачу цябе, аднак, супакоіць. Такія сны часта сняцца справядлівым людзям, якім і ў галаву не прыйшло б рабіць нейкае злачынства. Пэўна, бандытам такія сны не сняцца.

А яшчэ хацеў бы я цябе абрадаваць. Калі сніцца турма, турэмнае зняволенне, дык можаш спадзявацца дабрабыту, міру, а нават багацця.

Даражэнькі Сцяпане, а мо ты, братка, гарэлкай з Усходам гандлюеш? Бо чаму ж гэта ўсё дзеялася за ўсходняй граніцай?!

Ганна! Абодва твае сны кепскія. Першы сон толькі пацвердзіў існуючы стан рэчаў: пацалунак якраз канстатаваў фальшывасць і двурушнасць таго твайго калегі. Другі сон таксама гаворыць аб нейкіх прыкрасцях ад фальшывых-сяброў, якія з розумам не надта ў дружбе.

**Астрон**

# Белавежская дэмаграфія

Цяпер у Белавежскай гміне пражывае 3 020 чалавек (дзесяць гадоў таму насельніцтва налічвала 3 400 асоб). Зараз у самой Белавежы жыве 2 656 мужчын і жанчын. Большыя вёскі ў гміне гэта Чарлянка (120 жыхароў), Тэраміскі (100) і Буды (78).

Сёлета ў пушчанскай гміне нарадзілася 11 дзяцей і было 31 пахаванне. Згулялі сем вяселляў (найбольш у лютым — чатыры). Адзін белавежац узяў сабе за жонку дзяўчыну з Украіны.

Бацькі найчасцей даюць нованароджаным вось такія імёны: Наталля, Кацярына, Сільвія, Караліна, Вераніка і Магдаліна ды Пётр, Павел, Каміль, Крыстыян і Дамян.

Найстарэйшым жыхарам Белавежскай гміны з'яўляецца Раман Падлашчык з Белавежы (нарадзіўся ён у 1900 годзе), затым Анастасія Аніщчук, Надзея Зялінская і Даніла Пэршка, якія нарадзіліся ў 1901 годзе, ды Надзея Вашкевіч і Васіль Ліцкевіч 1904 года нараджэння.

**(гай)**

# Малако з пушчанскіх вёсак

Малочны кааператыў у Гайнаўцы быў заснаваны 36 гадоў таму і ўвесь час працуе паспяхова. Цяпер купляе і перапрацоўвае звыш 40 мільёнаў літраў малака ў год.

На Гайнаўшчыне ёсць добрыя ўмовы для гадоўлі рагатай хатняй жывёлы. Тут 30 прац. усіх зямельных угоддзяў займаюць сенажаці і пашы. На малочны завод паступае адборны сырадой ад 3,6 тысяч пастаўшчыкоў.

Гайнаўскія малочныя прадукты — сыр, масла і тварог — ахвотна купляюць на Сілезіі і на Памор'і, а таксама ў Варшаве. Заслуга ў тым і стабільнага заводскага калектыву, у якім пераважаюць выпускнікі Малочнага тэхнікума ў Беластоку.

Найбольш адборнага малака прадаюць кааператыву Адам Грынявіцкі з Рагазоў, Юры Семяновіч з Іванкоў, Міраслаў і Віталь Ярмоцкі з Ванева ды Ян Максімюк з Сацоў — усе яны з Нараўскай гміны; Яраслаў Стоцкі з Новай Лукі і Станіслаў Сватко са Смольніцы — з Нараўчанскай гміны; Яўген Галашэвіч з Ягаднікаў, Ян Корч з Тафілаўцаў і Пётр Мінюк з Істока — з Дубіцкай гміны; Анатоль Ігнацюк і Уладзіслаў Андраюк з Новага Беразова, Мікалай Галёнка з Махнатага і Мікалай Галёнка з Вялікіх Пасечнікаў — усе з Гайнаўскай гміны ды Васіль Семянюк з Падрэчан, Лявон Назарук са Слівова і Міхал Мароз з Шастакова — усе яны з Чыжоўскай гміны.

**(яц)**

# Чатыры конкурсы

Праўленне гміны і Гмінны асяродак культуры ў Дубічах-Царкоўных арганізавалі конкурсы: фатаграфічны — на найцікавейшы здымак зроблены над вадасховішчам „Бахматы" каля Дубічаў-Царкоўных; на найцікавейшую маску з кары дрэў; на самую цікавую кампазіцыю з карэнняў дрэў і на самыя багатыя калекцыі (прыватныя) усялякіх прадметаў, сабраных аматарамі.

У дубіцкім ГОКу (па вул. Галоўнай 67) будуць наладжаны пасляконкурсныя выстаўкі.

Падсумаванне конкурсаў — 20 і 23 жніўня 1998 года.

**(гай)**

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1998 r. upływa 5 września 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка



Мал. Алега КАРПОВІЧА

## Шавялюра

*(дрындушка)*

Касіў Ясь канюшыну,
Паглядаў на дзяўчыну,
Што ляжала у траве
І так думаў ён сабе:

Параска гэта ці Валя,
Гарадская з яе ляля.
Цэлы дзень ў траве ляжыць
І на сонейка глядзіць,

У яе ручкі далікатныя,
Для грабель непрыдатныя.
Памяняю я работу,
Мо паможа мне з ахвотай...

А дзяўчына загарала
І на Яся паглядала,
І на сонцы, у траве
Так падумала сабе:

Ці мужык гэта, ці не,
Спадабаўся ён мне.
І стаханавец-касец,
І так сабе маладзец.

Вось каб ён змяніў работу,
Памагла б яму з ахвотай!
Бо для майго манікюру
Не граблі апаратурай.

Кінуў Яська касіць
І пачаў траву мясіць,
А дзяўчына памагала —
Шавялюру заграбала.

Запісаў
**Адам Маньяк**

## Наш коцік Бобік

Захацела мая дачушка коціка. Думаю, шчасце доні — святая рэч, а і каты дзе-нідзе такімі лічацца. Значыць, трэба ўзяць — коцік істота невялікая, то і клопат з ім такі ж. Добраму рашэнню і падтрымка хуценька знойдзецца — у суседкі, у яе коткі Рамонкі нарадзілася парачка. Жанчына ў адчаі — ветэрынарныя прэпараты ад свядомага мацярынства не падзейнічалі! Ну, дык мы суседцы паможам, возьмем адно кашэчае дзіцятка. Але якое выбраць? Як галава сям'і вырашаю, што наш коцік — мужчына. З кошачкай, бачыце, клопат — шматразовыя цяжарнасці, аборты, уколы, кавалеры і рознае такое, што трапляецца з жанчынамі. А кацiска, вось, зусім іншая справа. Павалачэцца такі кудысьці на пару начэй, і карміць яго не трэба. А як размножыць свой кашэчы род па аколіцы, нягледзячы на нацыянальнасць кошак — і тутэйшых, і чужых, і прыезжых! Перамаглі, значыць, аспект эканамічны і сацыяльна-нацыянальны. А гэта ў нашым гарадку, што ў сэрцы пагранічча, справа немалаважная!

Ну, і ўзялі мы коціка ў сям'ю. Але як яго клікаць? Бабуля кажа, што найлепш Зорык або Мурза, жонка пакуль хістаецца, дачка, вядома, Пушкам хоча яго называць, і зноў усё на маю галаву! Прапаную: Бобік. Імя бойкае і гістарычна замацаванае ў нашым асяроддзі, якраз для нашага свядомага і моцнага ў будучыні ката. І, як ні дзіўна, усе ў сям'і згодныя. Ну, і маем цяпер пацеху.

Гуляе наш Бобік, бы славуты Альфік з кабелем на муках, і нам спаць не дае. Добра, што на „віскас" глядзець не хоча, малако толькі хлебча і закусвае скварачкай. А як цела набірае!

Мінуў месяц, а Бобік сваволіць далей так, што ноччу ледзь сплюшчыш вока. Засынаем па прынцыпе: падае Бобік, падаем і мы. Думаю, штосьці тут не так. Мо таму, што ён не ахрышчаны як належыцца? Тут патрэбна рука адпаведная. А паколькі цяпер хрысцяць усё і ўсіх, дык з гэтым праблемы быць не павінна! Ну дык я хутчэй да святара. Я яму пра хрэсьбіны, імя, а ён — бах! цану ў пару сотак!.. Кажу, гэта ж толькі коцік, малюсенькі, можа, цану крышку спусціць? А святар яшчэ ўзлаваўся. Так мы і разышліся. Ну, думаю, пайду цяпер да ксяндза. Свой ён хлопец, вернікаў малавата, значыць, не пераліваецца ў яго, дык можа паможа. На ўсякі выпадак прыдумаў я коціку і другое імя — Зыга. Айцу ўсё спадабалася, апрача таго, што хачу ахрысціць коціка. Абазваўшы мяне бесавым сынам і яшчэ горш, не захацеў нават слухаць маіх грашовых прапаноў. Служыцелі іншых веравызнанняў таксама не выказалі зразумення для маёй справы і я амаль ужо змірыўся з візіяй чарговых цяжкіх начэй і такіх жа ранкаў. Вядома, да часу, пакуль Бобік пойдзе па дзеўках. І па сваіх, і чужых, і мешаных...

Аднак, вяртаючыся дамоў, я даведаўся, што ў нашым гарадку ў сэрцы пагранічча дзейнічае нейкая секта. Называе сябе яна „Шырокі круг" і мае свайго гуру. Дык я, бы той тануччы, што за брытву хапаецца, — да таго іхняга праведніка. А ён, уявіце сабе, за аніякія грошы, акуратненькую метрыку прыгожым почыркам (пэўна, вучоны) вывеў, коціка завочна ахрысціў, ды мне, маёй сям'і коціку пажадаў усяго добрага. Заўважыў толькі, што пры імёнах павінна быць прозвішча або хоць яго першая літара.

І так жывём мы цяпер шчасліва з Бобікам Зыгай Б. Усе пахрышчаныя. І добра гуляем, спакойна спім, бульбу варым... Туп-туп-туп, кіц-цiц-кіц!..

**Генрык Балазюк**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. продаж гатовай прадукцыі, 8. можа быць вайсковы або піянерскі, 9. дачка дачкі або сына, 10. культавае збудаванне, 11. падзея звязаная з Ноем, 13. столік у царкве пад кнігі, абразы, 15. дэман, які жыве ў вадзе, 16. дзік, 20. пацеркі, аброжа, або... хамут, 22. перахоп, 23. зацягвае рану пры зажыванні, 27. звальненне са службы, 29. матроская суконная куртка, 30. дасканалы ўзор, 31. шлях руху да месца ссылкі, 32. шкляная пасудзіна для напіткаў, 33. Васіль, напісаў „Жураўліны крык" (нар. у 1924 г.), 34. напр. 7 лістапада 1917 г.

**Вертыкальна:** 1. прыгатаваныя для яды прадукты харчавання, 2. палавіна, 4. бярозавы зараснік, 5. робіць паветра непразрыстым, 6. ім пасля бойкі не махаюць, 7. напр. вінавальны, 12. царкоўная служба па нябожчыку, 14. Вацлаў, расейскі харэограф (1890—1950), 16. 60 штук, 17. напр. палітычнае ў цэнтральных камітэтах кампартый, 18. самец свінні, 19. укрыцце для стральбы, 21. чарніла, 24. жыхар Таджыкістана, 25. карыстаецца неабмежаванай вярхоўнай уладай, 26. шэрсць, 27. першая ў грэчаскім алфавіце, 28. шчыт для аб'яў і экспанатаў. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 27 нумара**

**Гарызантальна:** кручa, паселішча, горла, налог, ямб, канцлер, дзедзіч, два, азноб, дзіда, кармеліты, сліна.

**Вертыкальна:** дуалізм, каста, аршын, пярсцёнак, агледзіны, граза, гліна, ярд, БДА, вазелін, Барыс, дзіра.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Запаўняючы апытальнік стары дзедка ў графе „пол" напісаў „закончаны".

* * *

Вася выглядае цераз акно на садок суседа і бачыць, што сусед стаіць на драбіне і падцягае канат.

— Эй, сусед, што там вычаўпаеш?

— Буду вешацца.

— А чаму ж ты вяжаш канат вакол пояса а не на шыю?

— Прабаваў і кругом шыі, але тады душуся.

* * *

Маладая вадзіцелька ўязджае аўтамабілем у вуліцу пазначаную знакам забароны ўезду. Падыходзіць да яе паліцыянт:

— Ці вы не ведаеце, які там знак?

— Паняцця не маю. Але вы схадзіце ў кіёск, што стаіць побач яго: яны там павінны ведаць.

* * *

Папугайка з выстаўленай за вакно клеткі крычыць на праходзячага вуліцаю паліцыянта:

— Сіні дурань! Сіні дурань!

Знерваваны паліцыянт прыгразіў уласніку птушкі, што калі такое паўторыцца яшчэ адзін раз, тады пакарае гаспадара. Пералязканы ўласнік занёс гарэзніцу ў куратнік.

— Новая жонка! — уцешыўся певень.

— Ніякая я табе жонка, — адказала папугайка, — толькі палітычна зняволены.

* * *

Паліцыянт прыводзіць у камісарыят жабрака:

— Гэты грамадзянін жабраваў у публічным месцы, — паведамляе каменданту.

— Выпішы яму штраф на дзесяць злотых, — вырашае камендант.

— Але я сабраў толькі сем з паловаю злотага, — паведамляе сярмяжнік.

— Добра, адпусціце яго, — загадвае камендант. — Няхай дажабруе яшчэ два з паловаю злотага, каб меў чым заплаціць штраф.

* * *

Паліцыянт затрымлівае шафёра:

— Ну, хукайце!

— З вялікаю ахвотай; а ў якім месцы вам баліць?

* * *

Дзве бабулькі на лавачцы ў парку:

— Ці ведаеш, чаму паліцыянты ходзяць парамі?

— Не.

— Бо адзін умее чытаць, а другі пісаць.

У тым часе побач праходзілі два паліцыянты і папрасілі ў бабулек дакументы.

— Я буду чытаць, — кажа адзін, — а ты запісвай.